ГЭНРЫК СЕНКЕВІЧ

# Бартэк пераможнік

З польскае мовы пералажыў
**Краўцоў Макар.**

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСК. ВЫДАВЕЦКАГА Т-ВА.
ВІЛЬНЯ 1926

## I.

Рыцар майго расказу называўся Бартэк Словік, але таму што ён меў звычай вытрашчаць вочы, калі з ім гаварылі, дык суседзі празывалі яго Бартэкам зіграстым. З салаўём*) ён меў надта няшмат супольнага, але затое за свае разумовыя здольнасьці і, ў поўным сэнсе слова, гомэрычную наіўнасьць адтрымаў прозьвішча: Дурны Бартэк. Гэтае апошняе прозьвішча было самым популярным, і напэўна яно толькі адно перайдзе ў гісторыю, хаця ў Бартэка было яшчэ і чацьвёртае — казённае. Дзеля таго, што польскія словы człowiek (чалавек) і słowik (салавей) ня робяць для нямецкага вуха ніякае розьніцы, а немцы любяць, у імя цывілізацыі, перакладаць барбарскія славянскія прозьвішчы на болей культурную мову, дык падчас ваеннае перапісі паміж Бартэкам і нямецкім афіцэрам адбылася гэткая размова:

— Як цябе завуць? — спытаўся афіцэр у Бартэка.

— Словік.

— Szloik? **) Ach ia. Gut.

---

*) Словік — папольску — салавей.

**) Перакручанае польскае слова szloik—азначае człowiek — чалавек

I афіцэр напісаў „Mensch“.

Бартэк паходзіў з вёскі Пагнэмбін. Вёсак з гэткім самым назовам вельмі шмат у князьстве Пазнанскім і іншых акругах ранейшае Польшчы. Гаспадарка яго складалася з зямлі, хаты, пары кароў і шэрае кабылы. Ен быў жанаты, і жонку яго звалі Магдаю. Жылося яму, як Бог даў, і толькі, калі Бог даў вайну, Бартэк быў вельмі стурбованы. Прышло паведамленьне, што трэба йсьці ў салдаты, трэба кінуць хату, зямлю і здаць усё гэта пад бабіну апеку. Жыхары Пагнэмбіна былі досіць беднымі. Бартэк звычайна зімою хадзіў на фабрыку, і заробленыя тамака грошы былі падтрыманьнем для яго гаспадаркі—а цяпер, што будзе? Хто ведае, калі скончыцца вайна з французамі! Магда, прачытаўшы павестку, заклікаўшую яе мужа на вайну, пачала праклінаць немцаў:

— А каб яны загінулі! каб яны пасьлеплі... Хоць ты й дурны... а ўсё-ж такі мне цябе шкада; французы не дадуць табе пардону і адсякуць галаву.

Бартэк пачуваў, што жонка кажа праўду; французаў ён баяўся, як агню, дый да таго яму было сумна. Што яму благое зрабілі французы? нашто і для чаго яму туды йсьці, на гэту страшную чужыну, дзе няма ў яго ніводнае блізкае, спагадлівае душы. Як сядзіш у Пагнэмбіне, дык здаецца, быццам ні тое, ні сёе, а як загадаюць ісьці, тады толькі бачыш, што тут ляпей, чымся дзе-нібудзь у іншым месцы, але ўжо нічога не

парадзіш—гэткая доля, трэба йсьці. Бартэк абняў бабу, пасьля свайго дзесяцьгадовага сына Франка, затым плюнуў, перажагнаўся і выйшаў з хаты, а Магда за ім. Яны разьвіталіся не асабліва далі-катна. Жонка і сын плакалі. А Бартэк толькі паўтараў: „ну, будзе, будзе“,—і гэтак яны выйшлі на дарогу. Толькі тут яны ўбачылі, што ўва ўсім Пагнэмбіне адбывалася тое самае што ў іх. Уся вёска высыпала на дарогу, якая была завалена прызыўнымі. Усе йдуць да найбліжэйшае чыгу-начнае станцыі, а бабы, дзеці, старыя і сабакі праводжваюць іх. Прызваным цяжка на сэрцы, сярод іх ёсьць ужо некалькі п‘яных, некаторыя хрыплымі галасамі сьпяваюць песьні.

Дзе-хто з немцаў—пагнэмбінскіх колёністых — сьпявае ад страху Wacht am Rhein. Увесь гэты натаўп, пярэсты і рознае масьці, сярод якога блішчаць штыхі жандароў, з крыкам і гоманам праходзіць праз вёску. Бабы трымаюцца за сваіх мужыкоў „жаўнераў“ і плачуць; нейкая бабулька пагражае кудысьці ў прастор кулаком. Іншая з бабаў кляне: „хай пакарае вас Бог за нашыя сьлёзы“. Чуваць воклікі: „Франэк! Каська! Юзік! бывайце здаровы“. Сабакі брэшуць. Разьлягаецца гук звана. Ксёндз чытае пацеры за паміраючых, бо гэта-ж ніводзін з тых, што йдуць цяпер на станцыю, ўжо ня вернецца. Вайна бярэ іх усіх, але ня ўсіх аддае. Плугі паіржавеюць на палёх, таму што Пагнэмбін абвясьціў вайну Францыі. Пагнэмбін ня мог паміркіцца з перавагаю ўплыву Напалеёна III-га, ўзяў блізка да сэрца пытаньне аб кандыда-

туры на гішпанскі пасад. Водгукі званоў праводзяць натаўпі, які ўжо выйшаў з вёскі. Праходзяць каля маленькае капліцы, ўсе скідаюць шапкі і каскі. На дарозе паднімаецца залацісты пыл, таму што дзень сухі і ясны. Па абодвых бакох дарогі жыта, якое дасьпявае, шарахціць цяжкімі каласамі і, час ад часу, мягка гойдаецца пры кожным павеве летняга ветрыку. Угары чуецца песьня жаваранка.

Станцыя! Зусюль прыбываюць яшчэ болей значныя натаўпы народу. Тут ужо сабраліся прызваныя в Верхняе Кшывды, Ніжняе Кшывды, з Выўлашчынцаў, з Нядолі, і Мізэрова. Гоман, крыкі, мітусьня! На сьценах станцыі налеплены маніфэсты. Вайна тут „У імя Бога й Айчыны“. Запасныя пайдуць бараніць свае сем'і, жанок, дзяцей, хаты й палі. Французы, як відаць, асабліва пагражаюць Пагнэмбіну, Верхняй Кшывдзе, Ніжняй Кшывдзе, Выўлашчынцам, Нядолі і Мізэрову. Гэтак, прынамсі, здаецца тым, хто чытае маніфэсты. На станцыю прыбываюць усё новыя натаўпы. У залі дым ад люлек напаўняе паветра і зацягвае маніфэсты. Усе ходзяць, клічуць, крычаць. На дэбаркадэры чуецца нямецкая каманда, кароткая, цьвёрдая, рашучая.

Разьлягаецца званок, чуецца сьвіст і пыханьне лёкомотывы. Усё бліжэй і бліжэй прыдаецца быццам гэта надходзіць вайна.

Другі званок! Дрыжыкі прабягаюць па ўсіх сабраных. Чуецца крык: „едуць, едуць!“ Жанчыны падхапляюць гэтае слова і выгукваюць „едуць!“

Нечы асабліва ґучны ґолас дадае: „французы едуць!“ і ў адно мігненьне паніка ахапляе ня толькі жанчын, але й будучых рыцараў Сэдану. Натаўп варухнуўся. Тымчасам цягнік спыняецца. Ува ўсіх вокнах відаць шапкі з чырвонымі кругамі й мундзеры. Войска, як відаць, грамáда. На пляцформах чарнеюць гарматы, усюды блішчаць штыхі. Жаўнерам мусі загадана сьпяваць, таму што ўвесь цягнік аж дрыжыць ад моцных мужчынскіх галасоў. Нейкая моц чуецца ў гэтым цягніку, канца якога ня відаць.

На дэбаркадэры жаўнеры шыкуюцца ў рады: хто можа, дык яшчэ разьвітваецца. Бартэк махнуў сваімі магутнымі ручышчамі, быццам крыльлямі ветрака, й вырачыў вочы.

— Ну, Магда,— сказаў ён,— бывай здарова!

— Ах ты, небарака!

— Ты ўжо мяне ня ўбачыш!

— Ужо ня ўбачу?! О, Божа!

— Нічога не парадзіш!

— Няхай сьцеражэ цябе Маці Божая...

— Бывай здарова: наглядай за хатаю.

Баба са сьлязьмі абхапіла яго шыю рукамі.

— Крый цябе Божа!

Надходзіць апошняя мінюта. Піск, плач, хліпаньні жанчын часова заглушаюць усё: „Бывайце здаровы! Бывайце здаровы!“ Хутка жаўнеры ўжо адлучаны ад натаўпу народу: ужо твораць чорную, згорнутую масу, якая змыкаецца ў квадраты і пачынае рухацца з рэгулярнасьцю машыны. Разьлягаецца каманда: „сядаць!“ Квадраты скіроў-

ваюцца да вагонаў, расьцягваюцца ў доўгі ланцуг і зьнікаюць у сярэдзіне вагонаў. Далёка сьвішча лёкомотыва і выкідае клубкі сівага дыму. Яна дыхае цяпер, як дзівачны дракон, і выпушчае пад сябе струі пары. Плач і хліпаньні жанчын мацнеюць. Адны з іх затуляюць вочы хвартухамі, другія выцягваюць рукі да вагонаў. Чуюцца галасы.

— Бывай здароў, Вартэк! — крычыць Магда. — Глядзі, ня лезь туды, куды цябе не пашлюць. Хай сьцеражэ цябе Маці Божая... Бывай здароў! О, Божа!..

— Наглядай за гаспадаркаю, — кажа Бартэк.

Раптоўна вагоны здрыгануліся і паехалі.

— Дык помні, што ў цябе жонка і дзіця! — гукнула Магда, йдучы каля вагона. — Бывай здароў, у Імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Бывай здароў...

Цягнік пасоўваўся ўсё шпарчэй і адвозіў ваякоў з Пагнэмбіна, з абедзьвюх Кшывдаў, з Нядолі і Мізэрова.

---

## II.

У адзін бок вяртаецца ў Пагнэмбін Магда з натаўпам бабаў і плача, а ў другі бок сьвету ляціць у шэрую даль цягнік, а ў ім Бартэк. Шэрай далі канца ня відаць, Пагнэмбін таксама ледзь заметны. Ледзь відneецца старая ліпа і званьніца касьцёла, таму што яго пазалачаны крыж ясна зіхаціць на сонцы. Хутка ліпа растала, а пазалачаны крыж здаецца ўжо аднэю блішчастаю плямачкаю. Пакуль блішчала гэтая плямачка, датуль Бартэк паглядаў на яе, а калі і яна зьнікла, дык селянін аканчальна паддаўся гору. Яго ахапіла нейкая слабасьць, і яму здавалася, што ён загінуў. Тады Бартэк пачаў глядзець на унтэр-афіцэра, таму што апрача Бога над ім ужо нікога больш ня было. Што цяпер з ім будзе, хай аб гэтым думае унтэр-афіцэр, бо сам Бартэк ужо нічога ня ведае, нічога не разумее. Унтэр-афіцэр сядзіць на лаўцы і, трымаючы паміж каленамі стрэльбу, курыць люльку. Дым штомінюты, бы хмара, зацягвае яго задуманны і сумны твар. Ня толькі вочы Бартэка глядзяць на гэты твар, на яго глядзяць усе вочы, з усіх кутkoў вагона. У Пагнэмбіне або Кшывдзе, кожны Бартэк ці Войтэк сам сабе пан, кожны

павінен думаць аб сабе і за сябе, а цяпер на гэта істнуе унтэр-афіцэр. Загадае ён ім глядзець направа, будуць глядзець направа, загадае—налева, будуць глядзець налева. Кожны пытаецца паглядам: „што з намі будзе?“, а сам унтэр-афіцэр ведае столькі сама, сколькі й яны, і быў-бы рад, калі-б хто-нібудзь з начальства зрабіў яму ў гэтым сэнсе якія-нібудзь загады або тлумачэньні. Сяляне баяцца навет і пытацца, таму што цяпер вайна са ўсім апаратам ваенных судоў. Што можна, а чаго — не, невядома. Прынамсі, яны вось ня ведаюць, і іх палохаюць гукі гэткіх словаў, як, напрыклад, Kriegsgericht, якія хоць не саўсім разумеюць, а тым больш іх баяцца.

Адначасна, яны пачуваюць, што гэты унтэр-афіцэр цяпер ім яшчэ больш патрэбны, чымся на манэбрах пад Пазнаньню, дзеля таго, што ён адзін ведае ўсё, ён за іх думае, а без яго ані кроку. Тымчасам яму мусі абрыдла трымаць стрэльбу, і ён кінуў яе Бартэку. Бартэк схапіў стрэльбу, вырачыў вочы і ўталопіўся ў унтэр-афіцэра, як у радугу, але ад гэтага невялікая для яго радасьць.

Ой, мусі, справа дрэнь, што й унтэр-афіцэр у вельмі прыгнечаным стане. На станцыях чутно сьпевы і крыкі; унтэр-афіцэр камандуе, мітусіцца, лаецца, каб паказаць сваю старанлівасьць перад начальствам, але як толькі цягнік рушыць, дык і ўсе сьціхаюць і ён ціхне. Для яго таксама сьвет дзеліцца на два бакі: адзін ясны і зразумелы — гэта яго хата, жонка і пярына, другі — цёмны,

саўсім цёмны — гэта Францыя і вайна. Ваякаў пагнэмбінскіх ажыўляў ваяўнічы дух, тым больш відочны, што быў ён не ў жаўнерах, а ў кожнага на хрыбце. А таму, што ў кожнага ваякі на хрыбце быў ранец, шынель і іншыя вайсковыя прылады, дык і ўсім было вельмі цяжка.

Тымчасам цягнік гудзеў і ляцеў у даль. На кожнай станцыі да цягніка прычаплялі новыя вагоны й лёкомотывы; на кожнай станцыі—гарматы, коні, стрэльбы з насаджанымі штыхамі пехацінцаў і значкі уланаў. Надходзіў ясны, ціхі вечар. На небе зазьзяла вячэрняя зарніца, асьвятляючы чырвоным сьвятлом маленькія лёгкія воблачкі. Цягнік, нарэшце, перастаў на станцыях забіраць людзей і, ўвесь трасучыся, ляцеў наперад у кірунку тае чырвонае, падобнае да мора крыві, паласы. З адчыненага вагона, ў якім сядзеў Бартэк разам са сваімі пагнэмбінскімі суседзямі, відаць было вёскі, сёлы, мястэчкі, касьцельныя званьніцы, буслы, стаяўшыя на аднойназе на сваіх гнёздах, асобныя хаткі, абкружаныя вішнёвымі садамі. Усё гэта мігцела ў вачох, аблітае чырвоным сьвятлом. Жаўнеры пачалі шаптаць паміж сабою і тым адважней, што унтэр-афіцэр, паклаўшы дарожны мяшок пад галаву, заснуў з фарфораваю люлькаю ў зубах. Войтэк Гвіздала, пагнэмбінскі селянін, сядзеўшы каля Бартэка, штурхануў яго лакцём.

— Слухай, Бартэк...

Бартэк нахіліў да яго свой твар, з задуманымі, вырачанымі вачыма.

— Чаго глядзіш, быццам цялё, якое вядуць рэзаць, — вышаптаў Гвіздала. — хоць-жа, ты, небарака, сапраўды йдзеш на разаніну...

— Ой-ёй! — застагнаў Бартэк.

— Баішся? — спытаўся Гвіздала.

— Ды як-жа не баяцца...

Зарніца зрабілася яшчэ больш чырвонаю. Гвіздала, паказваючы на яе рукою, ціха сказаў:

— Бачыш гэтае сьвятло? Ці ведаеш, дурню, што гэта такое? Гэта кроў. Тут Польшча, значыцца, наш край, — разумееш? А вун там далёка, дзе гэтак зьзяе, гэта і ёсьць Францыя...

— А ці хутка мы туды даедзем?

— Хіба табе так пасьпешна? Кажуць, быццам, страшэнна далёка. Але ня турбуйся; французы самі пайдуць на нас.

Бартэк пачаў напружанна працаваць сваею пагнэмбінскаю галавою. Пасьля мінютнага маўчаньня, ён спытаўся:

Войтэк?

— Чаго ты?

— А скажы, што гэта за народ — французы?

Тут вучонасьць Войтэка раптоўна ўбачыла перад сабою прорву, ў якую ёй лягчэй было ўляцець, чымся выляцець назад. Яму было вядома толькі, што французы — гэта французы. Ен чуў нешта пра іх ад старых людзей, якія казалі, што яны заўсёды ўсіх білі; нарэшце, ведаў, што гэта нейкія саўсім чужыя людзі, але як гэта вытлумачыць Бартэку, каб ён зразумеў, да якой ступені яны чужыя?

Бяручы гэта пад увагу, ён перш за ўсе паўтарыў пытаньне:

— Што гэта за народ?...

— Ну, але.

Войтэку былі вядомы тры народы: у сярэдзіне „палякі“, з аднаго боку „рускія“, а з другога — „немцы“. Але немцаў былі розныя гатункі. Дзеля гэтага, хочучы выказацца больш ясна, як точна, ён сказаў:

— Што гэта за народ — французы? Ды як табе сказаць: мусі гэткія самыя немцы, толькі яшчэ горшыя...

— О, сьцервы! — заўважыў Бартэк.

Дасюль ён меў да французаў адно толькі пачуцьцё, а ласьне пачуцьцё нязвычайнага страху. А цяпер гэты жаўнер прускага ляндвэру выкладаў яму больш ясную патрыятычную непрыязьнь. Аднак жа, ён яшчэ ня ўсё зразумеў і дзеля гэтага ізноў спытаўся:

— Значыцца, немцы будуць ваяваць з немцамі?

Тут Войтэк, як другі Сократ, рашыўісьці шляхам параўнаньняў і запярэчыў:

— А хіба твой Лысы з маім Бурым ня кусаюцца?

Бартэк расплюшчыў вочы і з мінюту глядзеў на свайго настаўніка.

— Гэта праўда... — заўважыў ён.

— Гэта-ж і аўстрыякі — немцы, — казаў далей Войтэк, — а хіба нашыя на біліся з імі? Стары Сьвершч расказаваў, што як ён быў на тэй

вайне, дык Штэйнмэц крычаў ім: „Наперад, хлопцы, на немцаў!“ Толькі з французамі ня гэтак-то й лёгка!

— О, Божа!

— Французы ніколі ніводнае вайны не прагралі. Француз, як прыстане да цябе, дык ужо ня вывернешся, ня думай. Кожны іхні мужык у два ці ў тры разы большы за нашага, а бароды ў іх доўгія, як у жыдоў. Іншы чорны, як чорт! Гэткага, калі ўбачыш, дык ужо маліся Богу!

— Ну, дык нашто-ж нам ісьці да іх? — з сумам пытаецца Бартэк.

Гэта філёзофская ўвага, быць можа, была ня так дурною, як яна здавалася Войтэку, які, відочна, пад уплывам урадовых натхненьняў, пасьпяшыў адказаць:

— Я таксама лічыў-бы за лепшае ня йсьці. Але-ж, калі не пайдзем мы, дык прыйдуць яны. Нічога не парадзіш. А ты чытаў, што было надрукавана? Яны больш за ўсё злыя на нашых мужыкоў. Людзі кажуць, як быццам яны дзеля таго так ласуюць на тутэйшыя землі, што хацелі правозіць з Польскага Каралеўства контрабандным спосабам гарэлку, а тутэйшы ўрад не пазваляе — і праз гэта вайна. Цяпер разумееш?

— Чаму-ж не разумець, — сказаў Бартэк.

Войтэк казаў далей:

— Кажуць яшчэ, быццам яны страшэнна любяць бабаў.

— Дык, значыцца, да прыкладу сказаць, яны і маёй Магдзе не даравалі-б?

— Яны й старых не абмінаюць.

— О, — крыкнуў Бартэк гэткім тонам, як быццам хацеў гэтым сказаць: ну, калі так, дык ■ ўжо ім дам.

Яму здавалася, што гэта ўжо занадта. Гарэлку хай сабе ціхачом правозяць, а датычна Магды—даруй цяпер. Бартэк пачаў глядзець цяпер на гэту вайну з пункту гледжаньня ўласных інтарэсаў і пачуў нейкую бадзёрасьць пры думцы, што гэтулькі гарматаў і войска йдзе бараніць Магду, якой пагражае французскае валачайства. Кулакі яго нявольна зашчаміліся, і страх перад французамі зьмяшаўся ў яго розуме з ненавісьцю да іх. Ён прыйшоў да перакананьня, што ўжо нічога не парадзіш, што трэба йсьці. Тымчасам надыйшла ноч. Сьцямнела. Вагоны, едучы па няроўных рэйках, моцна важгаліся, і ў тахту з іхнімі рухамі гойдаліся направа і налева каскі і штыхі.

Прайшла гадзіна, другая. З коміна паравозу выляталі мільёны іскраў, якія скрыжоўваліся паміж сабою ў цемнаце. Бартэк доўга ня мог заснуць: як тыя іскры ў паветры, — гэтак у яго ў галаве мігцелі думкі аб вайне, аб Магдзе, аб Пагнэмбіне, аб французах і немцах. Яму здавалася, што калі-б ён навет хацеў, дык ужо ня мог-бы ўстаць з гэтае лаўкі, на якой сядзеў. Нарэшце, Бартэк заснуў, але нездаровым паўсном. Сьніў ён, быццам яго Лысы кусаецца з Войткавым Бурым ды гэтак, што шэрсьць ляціць касмакамі. Ён схапіў палку, каб іх памірыць, як раптам бачыць ужо

нешта іншае: каля Магды сядзіць француз, чорны, як сьвятая зямля, а Магда рада, — сьмяецца і вышчарае зубы. Іншыя французы сьмяюцца з Бартэка і паказваюць на яго пальцамі... Гэта напэўна паравоз шуміць, але яму прыдаецца, быццам французы кажуць: Магда! Магда! Магда! Бартэк крычыць: ціха, зладзеі! пусьцеце бабу! А яны ўсё: Магда! Магда! Магда! Лысы і Буры брэшуць, цэлы Пагнэмбін крычыць: не давай бабы! а ён быццам зьвязаны. Нарэшце, Бартэк рвануўся, — вяроўкі парваліся, і ён хап за валасы француза, ды раптам...

І раптам ён чуе моцны боль, як-бы хто ўдарыў. Бартэк прачыхаецца і ўстае на ногі. Усе жаўнеры ў вагоне абудзіліся, ўсе пытаюцца, што сталася. Аказваецца, што небарака Бартэк праз сон схапіў унтэр-афіцэра за бараду, і вось цяпер ён стаіць, выцягнуўшыся, як струна, трымае пад брыль, а унтэр-афіцэр махае рукамі і крычыць, як шалёны!

— Ach Sie! Dummes Vich aus der Polakei Hau, ich den Lummel in die Fresse, das ihm di Zähne sektionsweise, aus dem Maule herausflegen werden. (Ах ты! дурная польская жывёла. Я гэтак лясну табе па мордзе, што тваё зубы павылятаюць).

Унтэр-афіцэр навет ахрып ад злосьці, а Бартэк усё стаіць і трымае пад брыль. Жаўнеры ледзь стрымліваюцца ад сьмеху, але баяцца, таму што з вуснаў унтэр-афіцэра разьлягаюцца апошнія стрэлы: Ein polnischer Ochse! (польскі бык!) Ochse aus Podolien! (падольскі бык!).

Нарэшце, ўсё сьціхла. Бартэк сеў на ранейшае месца. Ён пачуваў, што шчака ў яго пачынае пухнуць, а паравоз, як на злосьць, усё паўтараў:

— Магда! Магда! Магда!

---

## III.

Раніца. Белае сьвятло асьвятляе сонныя і змораныя твары. На лаўках у бязладзьдзі сьпяць жаўнеры. Адны з галавамі, схіленымі на грудзі, іншыя — з задранымі назад. Зарніца асьвятляе ружавым сьвятлом увесь сьвет. У паветры здорава і халадкавата. Жаўнеры будзяцца і пры сьвятле зарніцы бачаць нейкі незнаёмы ім край. Дзе цяпер Пагнэмбін, дзе Вялікая й Малая Кшывда, дзе Міззроў? Гэта ўжо чужына, тут усё інакшае. Навакола відаць узгоркі, абросшыя дубамі, ў далінах — хаты ■ чырвонымі чарапічнымі стрэхамі, хаты прыгожыя і ўквечаныя кучаравым вінаградам. Дзе-ня-дзе ўзьнімаюцца касьцёлы з вострaверхімі званьніцамі, дзе-ня-дзе фабрыкі з доўгімі камінамі, з якіх выходзіць дым. Толькі тут неяк цеснавата, няма гэткіх шырокіх раўнінаў, як у Польшчы. Затое людзей грамада. Мігцяць вёскі і месты. Цягнік, ня спыняючыся, праяжджае каля

шмат якіх маленькіх станцыяў. Нешта, аднак-жа, здарылася, таму што ўсюды відаць натаўпы народу. Сонца пamaленечку вылазіць з-за гараў, жаўнеры пачынаюць гучна маліцца, сонечныя косы асьвятляюць твары гэтых людзей, якія, задумаўшыся, моляцца.

Тымчасам цягнік спыняецца на галоўнай станцыі. Натаўп народу адразу яго абступае: ужо ёсьць весткі з тэатру вайны. Перамога! Перамога! Некалькі гадзін назад прыйшлі тэлеграмы.

Усе чакалі паражэньняў, і праз гэта, калі прыйшла добрая вестка, — радасьць народу бязьмежная. Людзі, поўапраненыя, выбеглі з сваіх хатаў і пасьпяшылі на станцыю. На стрэхах некаторых хатаў ужо цялеплюцца сьцягі, ў натаўпе махаюць хустачкамі. Да вокнаў вагонаў падносяць піва, табаку й цыгары. Энтузыязм нязвычайны, твары зіхацяць. Wacht am Rhein гудзе, як бура. Некаторыя з радасьці плачуць, іншыя абнімаюцца. Unser Frie разьбіў дашчэнту непрыяцеля! забраны гарматы, штандары. Пад уплывам шляхотнага энтузыязму натаўп аддае жаўнерам усё, што ёсьць. Жаўнеры весялеюць і таксама пачынаюць пеяць. Вагоны дрыжаць ад моцных мужчынскіх галасоў, і натаўп са зьдзіўленьнем слухае незразумелыя словы песьні. Die Polen! Die Polen! — чуецца шэпт у натаўпе, які стаіць каля вагонаў, дзівіцца з выгляду жаўнераў і разам з тым, цешыцца, чуючы расказы аб страшэннай мужнасьці гэтых польскіх палкоў.

У Бартэка шчокі распухлі, што пры яго жоў-

тых вусох, вырачаных вачох і вялікай фігуры робіць яго страшным. На яго глядзяць са зьдзіўленьнем, як на нейкага асаблівага зьвера. Вось якіх немцы маюць абаронцаў! Гэты ўжо накладзе французам. Бартэк усьмяхаецца, таму што й ён рад, што пабілі французаў. Яны, прынамсі, цяпер ужо ня прыдуць у Пагнэмбін, ня будуць цягацца за Магдаю і не адбяруць зямлі. Ён усьмяхаецца, але праз тое, што шчокі ў яго баляць, дык твар яго крывіцца і сапраўды робіцца страшным. Затое Бартэк есьць з апэтытам гомэраўскага рыцара. Вялікія кавалкі гарохавае кілбасы і кубкі піва зьнікаюць у яго ў роце, быццам у прорве. Яму даюць цыгары, фэнігі і ён усё бярэ.

— Добры народ гэтыя немцы, — зьвяртаецца Бартэк да Войтэка, а праз мінюту дадае: — А вось бачыш, яны пабілі французаў.

Але скэптычны Войтэк расхалоджвае таварыша. Ён праракуе, як Касандра:

— Французы заўсёды спачатку даюць сябе пабіць, каб ашукаць непрыяцеля, а пасьля, як вазьмуцца за яго, дык толькі касмакі ляцяць.

Войтэк ня ведае пра тое, што яго зданьне падзяляе большая часьць Эўропы і яшчэ менш ведае пра тое, што ўся Эўропа разам з ім памыляецца.

Едуць далей. Куды ні кінуць вокам, усе хаты ўквечаны сьцягамі. На некаторых станцыях цягнік стаіць даўжэй, чымся звычайна, таму што ўсюды грамада цягнікоў. Войска з усіх бакоў Нямеччыны сьпяшаецца на падмацаваньне сваіх

пераможлівых землякоў. Цягнікі парасквечваны зялёнымі вянкамі. Уланы прымацоўваюць да сваіх дзідаў падараныя ім букеты. Паміж уланамі большасьць таксама палякі. Раз у раз з вокнаў вагонаў чуюцца выгукваньні:

— Як маецеся хлопцы, а куды вас Бог нясе?

Іншы раз з пралятаўшага па суседніх рэйках цягніка далятала якая-нібудзь знаёмая песенка, якую Бартэк і яго таварышы зараз-жа падхаплялі.

Наколькі ўсе яны выехалі з Пагнэмбіну панурымі, настолькі-ж цяпер былі поўнымі веселасьці. Аднак-жа, прыбыўшы з Францыі цягнік з першымі раненымі псуе ім добры настрой. Ен спыняецца ў Дэйчы і доўга стаіць там, таму што трэба прапусьціць тыя цягнікі, якія сьпяшаюцца на тэатр ваенных дзеяў. Але раней, чымся ўсе яны пераедуць цераз мост у Кэльне, патрэбна некалькі гадзін часу. Бартэк разам з іншымі бяжыць глянуць на хворых і раненых. Некаторыя з іх ляжаць у зачыненых вагонах, а іншыя, дзеля таго што няма вольных месцаў, — на пляцформах, і гэтых можна добра бачыць. Пры першым паглядзе на іх, рыцарскі дух Бартэка кудысьці зьнікае.

— Хадзі сюды, Войтэк! — крычыць ён спалоханым голасам, — глядзі, сколькі народу напсавалі гэтыя французы.

І, сапраўды, ёсьць на што паглядзець! Твары раненых белыя, змучаныя, некаторыя счарнелі ад пораху і мукі; цераз павязкі прабіваецца кроў. На водгукі радасьцяў натаўпу раненыя адказваюць толькі стагнаньнем, іншыя з іх праклінаюць вайну,

іншыя штомінюты просяць вады. Дзе-ня-дзе паміж раненымі відаць твар таго, што памірае, іншы раз спакойны, з сінімі кругамі пад вачыма, іншы раз скрыўлены канвульсіямі, з перапалоханымі вачыма і вышчаранымі зубамі. Бартэк першы раз бачыць рэзультаты вайны. У галаве яго адбыкрываваюцца нейкі вадаварот, ён стаіць у натаўпе з разяўленым ротам, яго піхаюць у розныя бакі. Нарэшце, жандар штурхануў яго ложаю ў плечы. Бартэк шукае вачыма Войтэка, хутка знаходзіць яго і кажа:

— Войтэк, бачыш?

— Гэтак будзе і з табою.

— Езус! Марыя! І гэтак вось людзі забіваюць адзін аднаго. А вось, як мужык паб'е мужыка, дык яго зараз-жа жандары бяруць пад арышт, і пасьля яго суд карае.

— Ну, а цяпер той зух, хто болей людзей напсуе. Няўжо-ж ты, дурны, думаў што будзеш страляць парожнімі набоямі, як на манэбрах або да мішэняў, а не да людзей.

Тут, відочна, аказалася розьніца паміж тэорыяй і практыкай То-ж наш Бартэк быў жаўнерам, хадзіў на муштры і манэбры, страляў, ведаў што вайна на тое, каб забіваць, але цяпер, як убачыў кроў раненых, беды вайны, дык яму зрабілася гэтак нядобра, што ён ледзь стаяў на нагах. Бартэк ізноў ахапіўся пашанаю да французаў, якая паменшылася толькі тады, калі пераехалі з Дэйча ў Кэльн. На цэнтральным вакзале пагнэмбінцы першы раз убачылі палонных. Іх абкру-

жала грамада жаўнераў і народу, які глядзеў на іх з гордасьцю, але яшчэ без пачуцьця ненавісьці. Бартэк праціснуўся праз натаўп, расьпіхаючы яго лакцямі, і, паглядзеўшы на вагон, зьдзівіўся.

Вагон быў поўны французскіх пехацінцаў — маленечкіх, гразных, худых. Шмат якія з іх выцягвалі рукі па тое, чым іх надзяляў натаўп, паколькі не перашкаджаў гэтаму канвой. У Бартэка, на груньце таго, што яму казаў Войтэк, быў саўсім іншы пагляд на французаў, а дзеля гэтага, пабачыўшы іх гэткімі вартымі жалю, ён ізноў павесялеў. Рыцар наш азіраўся, ці няма дзе Войтэка. Войтэк стаяў тут-жа каля яго.

— Што-ж ты расказаваў,—заўважыў Бартэк, — нібыто іхні мужык у два-тры разы больш за нашага мужыка. То-ж гэта — заморкі. Калі-б я тра́хнуў каго-нібудзь з іх па лобе, дык чацьвёра звалілася-б.

— Яны, як відаць, вельмі аслабелі—адказаў, таксама расчараваны, Войтэк.

— Паякому яны гавораць?

— Ведама, не папольску.

Супакоены ў гэтым сэнсе, Бартэк пайшоў далей удоўж лініі вагонаў.

— Нічога нявартыя! — сказаў сабе ён, скончыўшы агляд лінейных войскаў.

— Але ў далейшых вагонах сядзелі зуавы. Гэтыя змусілі яго задумацца. Дзеля таго, што яны сядзелі ў зачыненых вагонах, дык нельга было пераканацца, ці сапраўды кожны з іх у два або ў тры разы больш за звычайнага чалавека, але

праз вокны відаць было доўгія бароды і сур'ёзныя ваяўнічыя твары старых жаўнераў, з грозна блішчэўшымі вачыма. Вайсковы запал Бартэка ізноў кудысьці зьнік.

— Гэтыя страшнейшыя, — ціха вышаптаў ён, быццам баяўся, каб яны яго ня чулі.

— Ты яшчэ ня бачыў тых, што не здаліся ў палон, — заўважыў Войтэк.

— О, Божа!

— Вось пабачым.

Наглядзеўшыся на зуаваў, яны пайшлі далей. Пораўняўшыся з чародным вагонам, Бартэк кінуўся назад, быццам апараны.

— Войтэк, ратуй! — крыкнуў ён.

У адчыненым вакне відаць было цёмны, блізу што чорны, твар туркоса. Ён быў мусі ранены, таму што твар яго быў скрыўлены болем.

— А што? — сказаў Войтэк.

— Гэта не жаўнер, а злы дух. Божа, будзь міласьціў мне грэшнаму!

— Паглядзі, якія ў яго *буты*.

— А хай ён саўсім загіне. Я на яго ня буду глядзець.

Бартэк сьціх; аднак-жа праз мінюту сказаў:

— Войтэк!

— Чаго?

— А калі-б гэткага паражагнаць? Як табе здаецца, паможа?

— Паганцы не разумеюць сьвятое веры.

Але вось жаўнерам загадана сядаць у вагоны. Праз мінюту цягнік паляцеў наперад. Калі

сьцямнела, дык Бартэк увесь час бачыў перад сабою чорны твар туркоса і страшныя бялкі яго вачэй. Духовы стан, у якім знаходзіўся цяпер пагнэмбінскі ваяка, не абяцаў у будучыні якіх-нібудзь вельмі добрых дзеяньняў.

---

## IV.

Удзел у гэнэральнай бітве каля Гравэлёту спачатку пераканӑў Бартэка толькі ў тым, што ў баі ёсьць на што глядзець, але няма чаго рабіць. Таму што спачатку яго палку было загадана стаяць пры ўзгорку, паросшым вінаграднікамі. У аддаленьні грымелі гарматы, блізка праяжджалі конныя палкі з гэткім тупатам, што зямля дрыжэла, пры гэтым мігацелі то значкі, то кірасьерскія палашы. Над узгоркам у яснай вышыні, ў форме белых вобалачкаў, з сычэньнем лёталі гранаты, пасьля дым запоўніў паветра і заслаў небасхіл. Здавалася, што бітва, як бура, праходзіць толькі дзе-ня-дзе, але гэта цягнулася нядоўга.

Калі прайшоў нейкі час, дык каля Бартэкавага палку пачаўся нейкі дзіўны рух. Каля яго станавіліся іншыя палкі, а ў інтэрвалы паміж імі са ўсяе сілы пад'яжджалі гарматы, якія зараз-жа былі зьніманы з перадкоў і пакручваны рулямі ў

кірунку ўзгорка. Уся даліна запоўнілася войскам. Цяпер усюды чутно словы каманды, ад аддзелу да аддзелу лётаюць конна ад'ютанты. Нашыя шэрэнгоўцы шэпчуць адзін да аднаго паціху: „ой, будзе нам, будзе", або неспакойна пытаюцца адзін у аднаго: „Хіба-ж ужо пачынаецца?" „Мусі ўжо". Вось падходзіць невядомасьць, загадка, быць можа, сьмерць... У дыме, якім зацягнула ўзгоркі, нешта страшэнна кіпіць. Усё бліжэй чуецца гук гарматаў і сухія гукі стрэлаў са стрэльбаў. Здалёку далятае нібыто нейкі неясны трэск, — гэта дзеюць карцечніцы. Раптоўна бабахнулі толькі што пастаўленыя гарматы ды гэтак моцна, што задрыжала зямля і паветра. Перад Бартэкавым палком нешта страшэнна засычэла. Усе глянулі ўгару: ляціць ні то чырвоная рожа, ні то маленечкая хмарка, і ў гэтай хмарцы нешта сычыць, сьмяецца, скрыгоча, іржэ і вые. Жаўнеры крычаць: „граната! граната!" Тымчасам гэтая птушка вайны прэцца, як віхар, падлятае бліжэй, нарэшце, падае і лопае. Разьлягаецца страшэнны грымот у радох, што стаяць бліжэй да гарматаў, адбываецца замяшаньне, чуюцца крыкі і каманда: „змыкайся!" Бартэк стаіць у першай шэрэнзе, галава яго крыху задрана ўгару, падбародак сьціснуты раменем ад каскі, і праз гэта зубы ў яго ня стукаюць ад страху. Страляць нельга, трэба стаяць і чакаць. Тымчасам ляціць другая граната, трэцяя, чацьвёртая, дзесятая. Вецер разьвявае дым з узгорка. Французы ўжо сагналі з яго прускую батарэю, ўжо паставілі сваю і абстрэльваюць

даліну. Штомінютна з гушчару вінаграднікаў вылятаюць доўгія, белыя стаўпы дыму. Пяхота пад прыкрыцьцем артылерыі спушчаецца ўсё ніжэй, каб пачаць страляці са стрэльбаў. Яна ўжо спусьцілася да паловы ўзгорка. Цяпер пяхоту якнайлепей відаць, таму што вецер адхіляе дым у бок. Быццам галоўкі цьвітучага маку мігацяць чырвоныя кэпі пехацінцаў. Раптоўна яны зьнікаюць паміж вінаграднымі лозамі, іх ужо ня відаць: толькі дзе-ня-дзе павяваюць трохколерныя штандары. Пачынаецца агонь стрэльбаў, густы, пасьпешны, раптоўна чутны ўсё ў іншых месцах. Над гэтым агнём увесь час выюць гранаты і скрыжоўваюцца ў паветры. На ўзгорку час ад часу разьлягаюцца крыкі, якім зьнізу адказвае нямецкае „гура!“ Гарматы, што стаяць у даліне, падтрымліваюць бесьперарыўны агонь.

Полк, у якім знаходзіцца Бартэк, стаіць нярухома.

Аднак-жа, сфэра агню паступова пачынае ахапляць і яго. Кулі ў аддаленьні зьвіняць, быццам мухі або шэршні, а бліжэйшыя пралятаюць з страшэнным сьвістам. Іх усё болей: вось яны сьвішчуць каля галоваў, насоў, вачэй, плечаў, ляцяць сотнямі, тысячамі. Раптоўна тут-жа за Бартэкам разьлягаецца стогн, пасьля ізноў стогн. Нарэшце, стогны чуюцца без канца, чуваць болей пасьпешную каманду, кулі сьвішчуць усё часьцей. Забітых выцягваюць з радоў за ногі.

— Баішся? — пытаецца Войтэк.

— А чаму-ж бы мне й не баяцца!..—адказвае наш рыцар, ляскаючы зубамі.

Аднак-жа, абодва яны стаяць — і Бартэк і Войтэк — і навет да галавы ім ня прыходзіць думка, што можна ўцячы. Ім загадана стаяць — і годзі. Бартэк маніць. Не баіцца ён гэтак, як ты-сячы іншых людзей баяліся-б на яго месцы. Дысцыпліна пануе над яго ўяўленьнем, а ў уяўленьні яго палажэньне ня рысуецца гэткім жахоўным, як яно ёсьць сапраўды. Бартэк, аднак-жа, думае, што яго заб'юць, і выказвае гэтую думку Войтэку.

— Дзіркі ў небе ня будзе, калі аднаго дурня заб'юць! — адказвае раззлаваным голасам Войтэк.

Словы гэтыя значна супакойваюць Бартэка. Здавалася, быццам яго, галоўным чынам, цікавіла, ці ня будзе дзіркі ў небе. Супакоены ў гэтым сэнсе, ён цярпліва стаіць і пачувае толькі, што яму надта горача, што пот сьцякае па яго тварч. Тымчасам агонь робіцца да таго забойчым, што рады проста растапляюцца. Ужо няма каму выцягваць забітых і раненых. Хрыпеньне тых, што паміраюць, зьліваецца са сьвістам снарадаў і громам стрэлаў. Па руху трохколерных штандараў відаць, што схованыя ў вінаградніку пехацінцы ўсё бліжэй падходзяць. Карцеча робіць страшэннае спусташэньне ў радох жаўнераў, якіх пачынае апаноўваць адчайнасьць.

Але ў водгуках гэтае адчайнасьці чуецца нецярплівасьць і заўзятасьць. Калі-б жаўнерам загадана было ісьці наперад, дык яны пайшлі-б, як

бура. Яны ледзь стаяць на месцы. Раптам нейкі жаўнер скідае з галавы каску, кідае яе на зямлю і кажа:

— Раз казе сьмерць!

Пры гэтых словах Бартэк адчувае гэткую палёгку, што блізу саўсім пакідае баяцца. Таму што, калі раз казе сьмерць, дык, у сутнасьці, ці варта турбавацца. Гэта мужыцкая філёзофія якая лепшая за ўсякую іншую, таму што падбадзрае чалавека. Бартэк, праўду кажучы, й сам ведаў, што раз казе сьмерць, але ўсё-ж такі яму прыемна было пачуць асабліва, калі бітва пачала набіраць характару разгрому. Іхні полк, ня даўшы аніводнага стрэлу, ужо напалову зьнішчаны. Натаўпы жаўнераў з іншых разьбітых палкоў у бязладзьдзі прабягаюць каля яго і толькі тыя мужыкі з Пагнэмбіна, Кпывды Вялікае, Кпывды Малое і Мізэрова, стрымліваныя жалезнаю прускаю дысцыплінаю, яшчэ стаяць. Але і ў іхніх радох чуецца некаторае хістаньне. Зямля пад іхнімі нагамі робіцца мяккаю і сьлізкаю ад крыві, пах якое мяшаецца з пахам дыму. У некаторых месцах рады ня могуць стуліцца, таму што трупы твораць паміж імі інтэрвалы. Паветра робіцца цяжкім, душным. У радох чуецца нездаваленьне.

— Нас прывялі на бойню!

— Ніхто жывым ня выйдзе!

— Still, polnische Vich, — разьлягаецца голас афіцэра.

— Табе дык добра за маімі плячыма...

— Steht der Kerl da! (зважай!).

Раптоўна чуюцца словы малітвы:

— „Пад тваю абарону“...

Бартэк зараз-жа падхапляе:

— „мы ўцякаем, Прасьвятая Багародзіца!“

І хутка на гэтым полі сьмерці палякі хорам зьвяртаюцца з мальбою да свае апякункі, Чанстахоўскае Мадонны, а ім утаруюць стогны паміраючых і раненых: „О, Марыя, Марыя!“ І яна, як відаць, паслухала іхняе мальбы, таму, што ў гэтую мінюту на замыленым кані да іхніх радоў пад'яжджае ад'ютант, і адразу чуецца каманда: „У атаку, стрэльбы на руку, наперад!“ Жаўнеры кідаюцца да ўзгоркаў шукаць штыхамі непрыяцеля, якога не маглі заўважыць вочы. Да нізу ўзгорка застаецца яшчэ дзьвесьце крокаў, і гэтае аддаленьне ім трэба прайсьці пад забойчым агнём.

Ці-ж не загінуць яны аканчальна, ці не адступяць? Загінуць могуць, але не адступяць, бо немцы ведаюць, якую песьню іграць гэтым польскім мужыком падчас атакі. Сярод грому гарматаў, сярод агню стрэльбаў, дыму, замяшаньня і стогнаў разьлягаюцца трубныя гукі й да неба ляціць польскі гымн, ад якога кроў кіпіць у грудзёх. „Гура!“ адказваюць Мацеі, Бартэкі і Войтэкі.— „*Покі мы жыемы*“. Іх апаноўвае энтузіязм, твары іх гараць. Яны йдуць, як бура, цераз чалавечыя целы, конскія трупы, цераз абломкі гарматаў. Палякі гінуць, але йдуць з крыкам, і пяяньнем. Вось яны дасягаюць віваградпікаў і зараз-жа зьнікаюць у іхнім гушчары. Чуецца толькі пяяньне, час ад часу блісьне штых. Угары агонь робіцца

ўсё страшнейшым, унізе чутно трубныя гукі. Сальвы французаў часьцеюць, робяцца няроўнымі, пасьпешнымі і раптам...

Раптам сьціхаюць.

Тамака, ўнізе, стары вайсковы воўк, Штэйнмэц, закурвае фарфоравую люльку і з задаваленьнем заўважае:

— Ім толькі гэтае граць! Дайшлі малайцы!

Трубы граюць усё той-жа самы гымн. Другі пазнанскі полк ідзе на падмогу першаму.

У вінаградніках кіпіць штыхавы бой.

Цяпер Муза, асьпявай майго Бартэка, каб памяць аб яго справах надоўга захавалася ў патомстве. У яго сэрцы, нецярплівасьць, адчайнасьць зьлілася ў адно пачуцьцё шаленства, а калі ён пачуў гукі гымву, дык жылы ў яго напружыліся, як жалезныя драты. Валасы ў яго сталі дуба, вочы заблішчэлі, ён запомніў пра ўсё на сьвеце, запомніў пра тое, што „раз казе сьмерць", і схапіўшы ў свае магутныя лапы стрэльбу, кінуўся наперад разам з сваімі таварышамі. Па дарозе рыцар наш упаў разоў з дзесяць, абабіў нос, запэцкаўся ў зямлю і кроў, якая пацякла з носа, і бег наперад, шалёны і спацеўшы. Ен вытрашчаў вочы, каб якнайхутчэй убачыць у гушчары якога-нібудзь француза, і, нарэшце, адразу ўбачыў трох каля штандару. Гэта былі туркосы. Але ці вы ня думаеце, што Бартэк адступіў? Не! Ен цяпер самога Люцыпара схапіў-бы за рогі. Ен падбег да іх, і яны выючы кінуліся на яго: два штыхі, як два жыгалы, вось-вось ужо дакранаюцца да яго

грудзей, але мой Бартэк як тра́хне ложаю раз, пасьля другі раз... У адказ пачуўся страшэнны стогн, і два ўпаўшыя чорныя целы ў канвульсіях задрыжалі на зямлі.

У гэтую мінюту да трэцяга туркоса, які трымаў штандар, прыбегла на падмогу чалавек з дзесяць яго таварышоў. Бартэк, як вар'ят, кінуўся на ўсіх іх. Разьляглїся стрэлы і адначасна ў стаўпох дыму сіпла загрымеў Бартэк;

— Не патрапілі!

Дый зноў стрэльба яго выпісала страшнае кола, ды зноў у адказ на ўдары пачуліся стогны. Туркосы, бачачы гэтага, звар'яцеўшага ад злосьці, волата, шарахнуліся назад, і ці не дачуў Бартэк, ці яны нешта крычалі паарабску, але так ці йначай, а яму здалося, быццам туркосы сказалі:

— „Магда! Магда!“

— Магды вам хочацца! — завыў Бартэк і за адзін скок апынуўся сярод непрыяцеля.

Нашчасьце, ў гэтую мінюту да яго падбеглі на падмогу Мацеі, Войтэкі й іншыя Бартэкі. У гушчары вінаграднікаў завязаўся рукапашны бой, у якім чуўся трэскат ламаўшыхся стрэльбаў, крыкі біўшыхся і стогны раненых. Рыцар наш гуляў, як бура. Счарнеўшы ад параховага дыму, абліты крывёю, больш падобны да зьвера, як да чалавека, ён кожным сваім ударам перакуляў людзей, ламаў стрэльбы, разьбіваў галовы. Рукі яго рухаліся з страшэннаю шпаркасьцю машыны. Дабраўшыся да трымаўшага штандар, ён схапіў яго сваімі жалезнымі пальцамі за горла. Вочы ў

працаўніка выйшлі на лоб, ён захрыпеў і выпусьціў з рук штандар.

— Гура! — крыкнуў Бартэк і, падняўшы штандар, замахаў ім у паветры.

Вось гэты якраз падняты і апушчаны штандар бачыў зьнізу гэнэрал Штэйнмэц.

Але ён мог яго бачыць толькі адзін міг, таму што Бартэк зараз-жа гэтым самым штандарам рассадзіў нечую галаву, пакрытую кэпі з залатым шнурком.

Тымчасам таварышы яго кінуліся ўперад.

Бартэк на мінюту застаўся адзін. Ен садраў штандар, схаваў яго за пазуху і затым, ухапіўшы ў абедзьве рукі дрэўца, пабег сьледам за сваімі таварышамі.

Групы туркосаў, выючы нечалавечымі галасамі, беглі цяпер да стаяўшых на вяршыне ўзгорку гарматаў, а за імі беглі Мацеі, Бартэкі, Войтэкі, крычучы і б'ючы непрыяцеля штыхамі і ложамі.

Зуавы, стаяўшыя каля батарэі, сустрэлі і тых і гэтых агнём са стрэльбаў.

— Гура! — крыкнуў Бартэк.

Палякі кінуліся на батарэю, каля якое ізноў закіпеў рукапашны бой. У гэтую мінюту другі пазнанскі полк прыбег на падмогу першаму. Дрэўца ад штандара ў магутных лапах Бартэка ператварылася ў нейкую пякельную зброю. Кожны яго ўдар прабіваў дарогу ў стуленых радох француэаў. Перапалох пачаў ахапляць зуаваў і туркосаў. У тым месцы, дзе біўся Бартэк, яны

адступалі. Хутка Бартэк першы ўжо сядзеў на гармаце, як на пагнэмбінскай кабыле.

Але раней, чымся жаўнеры пасьпелі заўважыць яго на ёй, як ён ужо сядзеў на другой, каля якое зваліў штандарнага са штандарам.

— Гура! Бартэк! — гукнулі жаўнеры.

Перамога была поўная. Захоплена некалькі карцечніцаў. Адступаўшая французская пяхота на другім баку ўзгорка была абкружана прусакамі і злажыла зброю.

Бартэк падчас адступленьня французаў захапіў яшчэ адзін штандар.

Трэба было яго бачыць, калі ён змучаны, спацеўшы і ўмазаны ў кроў, сапучы, як кавалёў мех, сходзіў разам са сваімі таварышамі з узгорка, валакучы на плячох тры штандары. Побач з ім ішоў падрапаны Войтэк.

— Што-ж ты расказваў?—загаварыў Бартэк.

—То-ж гэта чарвякі: у іх няма ніякае сілы. Падрапалі мяне і цябе, як кацяняты, вось і ўсё. А ўжо каторага я стукнуў, дык той і выцягнуўся.

— Хто-ж ведаў, што ты гэткі адважны, — заўважыў Войтэк, які бачыў заслугі Бартэка і цяпер ужо глядзеў на яго саўсім інакшымі вачыма.

Але-ж хто ня бачыў гэтых заслугаў? Увесь полк і большасьць афіцэраў. Усе са зьдзіўленьнем паглядалі цяпер на гэтага вусатага вялізарнага мужыка з выпрачанымі вачыма. „Ach verfluchter Polake!“ — сказаў яму сам маёр, узяўшы яго за вуха, а Бартэк з радасьці разявіў рот ад вуха да

вуха. Калі полк спыхаваўся пад узгоркам, дык маёр паказаў яго палкоўніку, а палкоўнік самому Штэйнмэцу.

Той аглядзеў штандары і загадаў іх узяць, а пасьля пачаў аглядаць Бартэка. Наш Бартэк ізноў выцягнены, як струна, і трымае стрэльбу на гонар, а стары гэнэрал глядзіць на яго і з задаваленьнемківае галавою. Нарэшце, ён нешта гаворыць да палкоўніка. Ясна чуецца слова: Unterofiizier.

— Zu dumm, Excellenz! (ваша эксцэленцыя!) ён занадта дурны, — заўважае маёр.

— А вось пабачым, — кажа яго эксцэленцыя і падходзіць да Бартэка.

Бартэк сам ужо ня ведае, што з ім робіцца. Справа нячуваная ў прускай арміі: гэнэрал будзе гаварыць з шэрэнгоўцам! Яго эксцэленцыі гэта будзе тым лягчэй, што польская мова яму знаёма. Нарэшце, шэрэнговец гэты так вызначыўся: захапіў у непрыяцеля тры штандары і дзьве гарматы.

— Скуль ты родам? — пытаецца гэнэрал.

— З Пагнэмбіна, — адказвае Бартэк.

— Добра. Як цябе завуць?

— Бартэк Словік.

— Mensch... паясьняе маёр.

— Mens, — паўтарае Бартэк.

— Ведаеш, за што б'еш французаў?

— Ведаю, ваша эксцэленцыя.

— Скажы!

Бартэк нявыразна мармыча:

„Таму што... таму што...“

Раптоўна опамінаюцца словы Войтэка, і ён, каб не пераблутаць, борзда выпальвае:

— Таму, што гэта таксама немцы, толькі сьцервы яшчэ горшыя.

Стары Штэйнмэц ледзь стрымліваецца ад сьмеху і, зьвяртаючыся да маёра, кажа:

— Вы казалі праўду.

Тымчасам Бартэк вельмі задаволены сабою і, вырачыўшы вочы, глядзіць на яго эксцэленцыю.

— Хто сёньня выграў бітву?—ізноў пытаецца гэнэрал.

— Я, ваша эксцэленцыя!—доўга ня думаючы адказвае Бартэк.

— Але, але, ты!—усьміхаючыся, пацьвярджае Штэйнмэц.—І вось табе нагрода.

Стары ваяка дае Бартэку крыж. Добры настрой духа гэнэрала саўсім натуральным шляхам адбіваецца на тварах палкоўніка, маёра, капітанаў і г. д. аж да унтэр-афіцэраў. Калі гэнэрал ад'ехаў, палкоўнік дае Бартэку дзесяць талераў, маёр пяць і гэтак далей. Усе паўтараюць, сьмяючыся, што ён выграў бітву, ад якой прычыны Бартэк з радасьці на сёмым небе.

Дзіўна. Адзін толькі Войтэк ня надта здаволены з нашага рыцара.

Увечары, калі абодва яны селі каля агню, і калі Бартэкаў рот гэтак сама быў моцна напханы гарохаваю кілбасаю, як сама кілбаса гарохам, Войтэк сказаў:

— І дурань-жа ж ты, Бартэк, саўсім дурань.

— А што? — праз кілбасу пытаецца Бартэк!

— Нашто-ж ты казаў гэнэралу пра францу-заў, што яны немцы.

— Дык ты-ж сам мне казаў...

— Але-ж трэ' было сьцяміць, што гэнэрал і афіцэры таксама немцы.

— Дык што-ж з таго?

Войтэк замяўся.

— Тое, што хаця і яны немцы, але ня трэба ім гэтага казаць, таму што гэта нядобра.

— Ды я-ж пра французаў сказаў, а не пра іх.

— Эх, як табе сказаць... гэта таго...

Войтэк раптоўна сьціх. Ён сам відочна таксама хацеў сказаць нешта іншае, хацеў растлумачыць Бартэку, што пры немцах няварта блага гаварыць аб немцах, але ў яго неяк заблутаўся язык.

---

## V.

Праз нейкі час пасьля гэтага, каралеўска-пруская пошта прывязла ў Пагнэмбін пісьмо гэткага зьместу:

„Хай будзе пахвалёны Езус Хрыстус і Яго Сьвятая Маці! Найдаражэйшая Магда! Што ў цябе чуваць? Табе добра ў хаце пад пярынаю, а я тут страшэнна як ваюю. Мы былі каля вялікае крэпасьці

Мэц, там была бітва, і я гэтак лупіў французаў, што ўся інфантэрыя і артылерыя дзівілася. І сам гэнэрал дзівіўся і сказаў, што я выграў бітву, і даў мне крыж. Цяпер мяне і афіцэры і унтэрафіцэры вельмі шануюць і ў морду саўсім мала б'юць. Пасьля мы памаршавалі далей, і была другая бітва, толькі я запомніў, каля якога гэта места, дык зноў здорава лупіў і ўзяў чацьвёрты штандар і апрача таго раніў аднаго самага галоўнага кірасьерскага палкоўніка і ўзяў у палон. А як будуць адсылаць дадому нашыя палкі, дык мне унтэр-афіцэр раіў падаць прашэньне аб тым, каб мяне пакінулі тутака, таму што на вайне толькі няма дзе спаць, а есьці даюць, колькі ўлезе, і віно ў гэтым краі ўсюды ёсьць, тому што народ багаты. Калі мы палілі адну вёску, дык не давалі літасьці ні дзецям, ні бабам, і я таксама. Касьцёл згарэў дашчэнту, бо яны каталікі, і людзей там згарэла нямала. Цяпер мы йдзём на самога імпэратара і будзе канец вайны, а ты наглядай за хатаю і Франкам, таму што, калі ня будзеш наглядаць, дык я чаго добрага бакі табе паламаю, каб ты ведала, хто я такі. Хай цябе Бог крые".

*Бартломей Словік.*

Бартэку відочна вайна прыпала да смаку, і ён пачаў глядзець на яе, як на падхадзячы для сябе занятак. Бартэк зрабіўся самапэўным і цяпер ішоў у бой, як раней на якую-нібудзь работу ў Пагнэмбіне. Пасьля кожнае бітвы на грудзёх у яго зьяўляліся ўсё новыя крыжы й мідалі, і хоць

яго не зрабілі унтэр-афіцэрам, аднак-жа ўсе лічылі першым шэрэнгоўцам у палку. Бартэк быў дысцыплінованы і меў сьляпую адвагу чалавека, які не здае сабе рахунку ў небясьпецы. Цяпер гэтая адвага не выплывала, як у першыя часы, са злосьці,—крыніцаю яе была цяпер жаўнерская практыка і вера ў сябе. Да таго-ж яго вялізарныя сілы вытрымоўвалі ўсялякія труды, паходы і нявыгоды. Людзі вакол яго хварэлі, худзелі, — ён адзін трымаўся бадзёра, толькі ўсё больш дзічэў і рабіўся ўсё болей жорсткім прускім жаўнерам. Зьмяніліся таксама й некаторыя яго разуменьні: Бартэк зрабіўся жаўнерам-патрыётам і сьлепа, як багоў, шанаваў сваіх начальнікаў. У чародным пісьме ён пісаў да Магды:

„Войтэка разарвала напаловы, на тое й вайна, разумееш? Ен быў дурань, таму што казаў, што французы гэта немцы, а яны французы, а немцы гэта нашыя“.

Магда ў адказ на абодвы пісьмы вылаяла яго, колькі ўлезла:

„Найдаражэйшы Бартэк,—пісала яна,—перад сьвятым аўтаром са мною павенчаны. Хай пакарае цябе Бог! Ты сам, паганец, дурань, калі разам з немцамі забіваеш каталіцкі народ. Хіба ты не разумееш, што немцы лютаране, а ты, каталік ім памагаеш? Табе хочацца вайны, доўбня ты, таму што на вайне можаш нічога не рабіць, а толькі біцца, піць, зьдзекавацца з людзей, ня трымацца посту ды паліць касьцёлы. А каб табе ў пекле гарэць за тое, што ты яшчэ хвалішся гэтым і не

спагадаеш ні старым, ні дзецям. Памятай, баран ты, што за гэта Усемагутны Бог на страшным судзе ня будзе мець літасьці да гэткіх балбаноў, і апамятайся, нарэшце, турак, а не, — дык я табе лоб рассаджу. Шлю табе пяць талераў, хоць мне тут і бяда, таму што гаспадарка блага йдзе.

Абнімаю цябе, найдаражэйшы Бартэк.

*Магда*".

Мораль, якая была ў гэтым пісьме, зрабіла на Бартэка слабое ўражаньне. „Баба службы не разумее, — думаў ён, — а мяшаецца“. І ваяваў паранейшаму. Ен ад'значаўся ледзь што ня ў кожнай бітве, аж урэшце ўсяго на яго зьвярнула ўвагу начальства важнейшае за Штэйнмэца. Нарэшце, калі напалову зьнішчаныя пазнанскія палкі былі адпраўлены ў глыб Нямеччыны, Бартэк па радзе унтэр-афіцэра падаў прашэньне і застаўся. Па гэтай прычыне ён, пачакаўшы крыху часу, апынуўся пад сьценамі Парыжа.

Пісьмы яго цяпер былі поўнымі пагарды да французаў. „У кожнай бітве—пісаў ён да Магды, яны ўцякаюць, як зайцы“. І пісаў праўду. Але аблога Парыжа не асабліва яму прыпала да смаку. Каля Парыжа прыходзілася цэлыя дні сядзець у акопах, часта будаваць шанцы і мокнуць на даждждзы. Да таго-ж яшчэ яму шкада было свайго ранейшага палку. У тым палку, ў які яго перавялі, ў характары ахвотніка, таварышы яго былі ў большасьці немцы. Гаварыць панямецку, ён сяк-так навучыўся яшчэ будучы на фабрыцы, а

цяпер пачаў шпарка асвойвацца з гэтаю моваю. Аднак такі, ў палку яго звалі ein polnischer Ochs, і толькі грамада яго крыжоў і страшэнныя кулакі баранілі яго ад крыўдных жартаў. Але пасьля некалькіх баёў новыя таварышы пачалі адносіцца да яго з пашанаю, і ён пакрысе зжыўся з імі. У рэшце ўсяго яны ўжо лічылі яго сваім, дзеля таго, што ён пакрыў славаю ўвесь полк. Бартэк заўсёды лічыў-бы для сябе за зьнявагу, калі хто-нібудзь назваў-бы яго немцам, але затое сам сябе ў процістаўленьне французам называў ein Deutscher. Яму здавалася, што гэта нешта інакшае, і пры гэтым ён не хацеў, каб на яго глядзелі горш, як на іншых. Але вось здарыўся выпадак, які даў-бы яму шмат матар'ялу для думак, калі-б толькі наагул думаньне было лёгкім для гэтага рыцарскага розуму. Аднаго разу некалькі кампаніяў яго палку былі пасланы проці вольных стральцоў. Немцы зрабілі засадку і стральцы ў яе папаліся. Але гэтым разам Бартэк ня ўбачыў чырвоных кэпі, якія рассыпáліся пасьля першых стрэлаў, бо аддзел стральцоў складаўся са старых жаўнераў, рэшты нейкага заграні́чнага легіёну. Абкружаныя ▪ усіх бакоў стральцы адчайна бараніліся і, нарэшце, кінуліся на ворага, каб штыхамі прабіць сабе шлях цераз апярэзаваўшае іх кола прускіх жаўнераў. Яны біліся гэтак энэргічна і мужна, што часьць іх прабілася праз войска. Стральцы не здаваліся ў палон, бо ведалі, які лёс чакае іх у падобным выпадку. Кампанія ў якой служыў Бартэк, захапіла ў палон толькі двух

стральцоў. Увечары іх памясьцілі ў лясьніковай хаце. На другі дзень іх павінны былі расстраляць. Варта ў некалькі жаўнераў стала каля дзьвярэй, а Бартэка паставілі ў хаце, каля пабітага вакна, разам са зьвязанымі палоннымі.

Адзін з палонных быў ужо немалады чалавек з вусамі, з сівізнаю і спакойным выразам на тва-ры; другому было на выгляд гадоў дваццаць з лішкаю, яго белакурыя вусы былі яшчэ саўсім маленечкія, і ўвесь ён быў падобны хутчэй да паненкі, чымся да жаўнера.

— Вось і канец, — загаварыў малодшы, — куля ў лоб і канец.

Бартэк гэтак здрыгануўся, што стрэльба навет зазьвінела ў яго ў руцэ: юнак гаварыў папольску...

— Мне ўжо ўсё роўна, — спакойна адказаў другі,—далібог усё роўна. Я ўжо гэтулькі вытры-баў валачайства, што з мяне годзі...

У Бартэка сэрца стукала ўсё мацней і мацней...

— Слухай ты,—казаў далей стары,—ратунку няма. Калі баішся, дык думай аб чым-нібудзь іншым, або кладзіся спаць. Жыцьцё подлае!

— Мне маткі шкада,—глуха сказаў малодшы.

І відочна, хочучы заглушыць неспакой са-мога сябе, ён пачаў сьвістаць нейкую ноту. Цераз мінюту ён, аднак-жа, сьціх сьвістаць і выгукнуў з глыбокім жалем:

— Хай заб'е мяне пярун! То-ж я навет і не разьвітаўся з ёю!

— Дык ты, значыцца, ўцёк з дому?

— Але. Я думаў: паб'юць немцаў, а тады пазнанскім паляком будзе лепей.

— І я так думаў. А цяпер...

Стары махнуў рукою і яшчэ нешта сказаў, але значна цішэй, так што словы яго заглушыў вецер. Ноч была халодная. Час ад часу йшоў дробны дождж, недалёка шумеў лес, чорны як цень, у коміне выў вецер. Лямпа, вісеўшая высока над вакном, асьвятляла мігаўшым сьвятлом хату, але стаяўшы тут-жа каля вакна Бартэк быў у цемнаце.

І, можа быць, і лепей, што палонныя ня бачылі яго твару. З мужыком рабілася нешта дзікае. Спачатку яго ахапіла зьдзіўленьне, і ён вырачаў вочы на палонных, стараючыся зразумець, што яны гавораць. Яны прыйшлі біць немцаў, каб пазнанскім паляком было лепей, а ён біў французаў, каб пазнанскім паляком было лепей. І вось заўтра гэтыя палонныя будуць расстраляны. Што гэта такое? А ці не загаварыць з імі? Ці не сказаць ім, што ён іхні зямляк, з аднае айчыны, што яму шкада іх. Але што ён ім скажа? Хіба-ж ён іх выратуе? То-ж і яго расстраляюць. Ой, страшна. Што з ім робіцца? Яго схапляе гэткае моцнае пачуцьцё жалю да палонных, што ён ледзь стаіць на сваім пасту.

Нейкая страшэнная туга налятае на аго аднекуль здалёк, з Пагнэмбіна. Невядомы госьць у жаўнерскім сэрцы — шкадаваньне крычыць яму: „Бартэк! выратуй сваіх, то-ж гэта свае" і сэрца рвецца да дому, да Магды, у Пагнэмбін, і гэтак

рвецца, як ніколі раней. Годзі яму гэтае Францыі, гэтае вайны і бітваў. Усё ясьней чуецца голас: „Бартэк, выратуй сваіх!“ Ах, каб гэтая вайна пайшла наскрозь зямлі!

Цераз пабітае вакно недалёчка відаць лес. Ён шуміць, як пагнэмбінскія хвоі, і ў гэтым шуме таксама чуецца:

„Бартэк, выратуй сваіх!“

Што яму рабіць?

Уцячы з імі ў лес?.. Але ўсё, што толькі пруская дысцыпліна змагла прышчапіць яму, здрыгваецца ад аднае думкі пра гэта... Трэба адагнаць гэтую думку... У Імя Айца і Сына!.. Ён, жаўнер, зробіцца дэзэртырам? ніколі!

Тымчасам лес шуміць усё мацнёй і мацней і вецер сьвішча ўсё жаласьней.

Раптам стары палонны кажа:

— Гэты вецер, як у нас увосень...

— Дай мне спакой!... — здушаным голасам адказвае юнак.

Аднак, пасьля мінютнага маўчаньня, ён некалькі разоў паўтарае:

— У нас, у нас, у нас. О, Божа!

Глыбокі ўздых зьліваецца са сьвістам ветру, і зноў палонныя сьціхаюць...

Бартэк дрыжыць, як у трасцы...

Горш за ўсё, калі чалавек не здае сабе справы з таго, што з ім. Бартэк нічога ня ўкраў, а тымчасам яму здаецца, як быццам што-нібудзь украў і як быццам баіцца, што яго зловяць. Ніхто яму не пагражае, і ўсё-ж такі ён нечага

баіцца. Ногі ў яго дрыжаць, стрэльба здаецца страшэнна цяжкаю, і нешта яго душыць, быццам сьлёзы. Яму шкада Магды, але і гэтага маладога палоннага гэтак шкада, што ён ня можа ўправіцца з сабою.

Часамі Бартэку здаецца, што ён сьпіць. Тымчасам вецер мацнее, і ў шуме яго ўсё часьцей чуюцца дзіўныя галасы.

Раптам у Бартэка пад каскаю ўсталі валасы...

Яму здаецца, нібыто, недзе там у глыбіні цёмнага бору, нехта стогне і паўтарае: у нас, у нас!

Бартэк здрыгвае і, каб апрытомнець стукае ложаю аб падлогу.

Ен прытамнее... Аглядаецца. Палонныя ляжаць у кутку, лямпа мігаціць, вецер вые, усё ў парадку.

Сьвятло цяпер шчодра падае на твар маладога палоннага. Сапраўды, гэта твар дзіцяці або дзеўчыны. Вочы яго заплюшчаны, галава спачывае на саломе, і ўжо цяпер ён здаецца няжывым.

Ніколі ў жыцьці Бартэк ня чуў гэткага нязвычайнага жалю. Да горла яму падходзяць сьлёзы.

Тымчасам старэйшы паварочваецца на бок і кажа:

— Дабранач, Уладыславе...

Надходзіць ціша. Праходзіць гадзіна, з Бартэкам, сапраўды, нешта нядобра. Вецер іграе, як пагнэмбінскі арган. Палонныя спакойна ляжаць, але хутка малодшы з натугаю ўстае і кажа:

— Карусь!

— Што такое?

— Сьпіш?

— Не...

— Слухай! Я баюся... Кажы, што хочаш, але я буду маліцца...

— Маліся...

— Ойча наш, Які знаходзішся на небе, хай сьвяціцца Імя тваё, хай прыйдзе царства Тваё...

Раптам плач перарывае словы маладога палоннага... але ўсё яшчэ чуецца перарыўчаты голас:

— Хай будзе... воля... Твая..

Бартэка апаноўвае страшэнны неспакой, дух сьпіраецца ў грудзёх. О, Божа! Ен ўжо ня вытрывае далей! Яшчэ мінюта і скажа палонным: „Я ваш, ратуйцеся"... пасьля праз вакно... ў лес... Хай будзе, што будзе.

Раптам каля прымна чуваць роўныя крокі. Гэта йдзе патруль.

Адбываецца зьмена вартаўнікоў.

На другі дзень з раніцы Бартэк быў п'яны.

І ў чародны дзень таксама...

---

Цераз нейкі час пачаліся новыя паходы, баі... і мне прыемна паведаміць, што рыцар наш дайшоў да роўнавагі. Пасьля тае ночы, ён толькі крыху прыладзіўся да гарэлкі, ў якой часамі можна знайсьці забыцьцё. Хаця... ў баёх Бартэк зрабіўся яшчэ болей жорсткім, як дасюль.

---

## VI.

Прайшло яшчэ некалькі месяцаў. Была ўжо вясна. У Пагнэмбіне ў садох цьвілі вішні, на полі зелянеў хлеб. Адзін раз Магда, седзячы перад сваею хатаю, скрабала на палудзень бульбу, якая сваім выглядам болей падходзіла для быдла, чымся для людзей. Але пара была вясьняная, і ў Пагнэмбін крыху залезла бяда. Гэта відаць было па счарнеўшым і клапатлівым твары Магды. Быць можа, для таго, каб крыху забыцца, жанчына час ад часу заплюшчала вочы і сьпявала песьню.

На чарэшнях шчабяталі вераб'і і быццам хацелі заглушыць яе голас, а яна, паючы, задумліва паглядала то на спаўшага на сонцы сабаку, то на дарогу, то на сьцежачку, якая вяла да дарогі цераз агарод і поле. Быць можа, Магда й таму яшчэ паглядала на сьцежачку, што яна цягнулася нацянькі да чугуначнае станцыі, і якраз здарылася, што ў гэты дзень яна глядзела не дарма. У аддаленьні паказалася нейкая фігура. Магда пачала прыглядацца, але сонца гэтак моцна сьвяціла, што нельга было разглядзець. Лысы, аднак-жа, прачхнуўся, задраў галаву і пачаў прыслухвацца. У той-жа самы час да вушэй Магды

даляцела нейкая песьня. Лысы зараз-жа падняўся і на ўсе чатыры нагі паляцеў да падходзіўшага чалавека. Тады Магда крыху зьбялела.

Бартэк, ці ня Бартэк!?

Жанчына ўстала гэтак шпарка, што дзеравяная міска з бульбаю ўпала на зямлю, цяпер ужо ня было няпэўнасьці. Лысы ўжо прыпаў да грудзей прыбыўшага. Баба кінулася ўперад і з радасьці крыкнула, як толькі магла:

— Бартэк! Бартэк!

— Магда! гэта я! — гукнуў Бартэк і дадаў шагу.

Цераз мінюту мужык з жонкаю ўжо абнімаўся.

— А я ўжо думала, — пасьпешна казала Магда, — што ты ня вернешся... Думала: забілі яго!... Дай на цябе наглядзецца... Ты надта схуднеў! Ну, дзякуй Богу, што ты вярнуўся!.. Пайдзём у хату... Франэк у школе. Немец трошкі мучыць дзяцей. Хлопчык здаровы. толькі вочы ў яго зіграстыя, як у цябе. Ой, час табе было вярнуцца, час. У нас бяда... Хата ўжо благая, на сьвірне страха развальваецца. Колькі ў мяне было клопату з сенам!.. Добра яшчэ, што Чамярніцкія мне памаглі. Я рада з цябе, вельмі рада. Бог цябе ўхаваў. О, Божа, а гэта што?

Магда толькі ў гэту мінюту заўважыла ў Бартэка на твары доўгі шнар, які цягнуўся ад левага віска да падбародка.

— Гэта нічога... Кірасьер мяне пашчупаў, але й я яго таксама. Я ляжаў у шпіталі.

— О, Божа!

— Глупства.

— Страшэнна як ты схудзеў!

— Ruhig, — заўважыў Бартэк.

Ён, сапраўды, вельмі схудзеў і счарнеў і вопратка яго была абтрэпана. Сапраўдны пераможнік. Пры гэтым ён пахістаўваўся.

— П'яны ты, ці што?

— Я... яшчэ слабы.

Бартэк быў слабы, гэта праўда, але разам з тым і п'яны, бо пры яго худзізьне для яго даволі было аднае добрае чаркі гарэлкі, а ён на станцыі выпіў чатыры. Затое й выглядаў ён сапраўдным пераможнікам. Гэткага выразу твару ў яго ніколі ня было.

— Ruhig, — паўтарыў Бартэк. — Мы скончылі Krieg (вайну), цяпер я пан, разумееш. А гэта, бачыш? — казаў ён далей, паказваючы на свае крыжы й мідалі. — Ведаеш, хто я такі! — А? links, rechts! Heu! Stroh! сена! салома! салома! сена! halt!

Апошняе слова *halt* Бартэк выгаварыў гэтак моцна, што баба адскочыла ад яго на некалькі крокаў.

— Што ты? апалеў?

— Як маешся, Магда? Калі я табе кажу: як маешся?.. дык значыцца, як маешся?.. А пафранцуску ўмееш, дурная?.. *Musiu, musiu!* хто *musiu?* Я *musiu,* ведаеш?

— Ды што з табою?

— Табе якое дзела? Was? done diner, разумееш?

Магда, як відаць, пачынала злавацъ.

— Паякому гэта мы гутарым? Хіба ня ўмееш папольску? Што з цябе зрабілі?

— Дай мне есьці!

— Марш у хату!

Усякая каманда рабіла на Бартэка неадбойчае ўражаньне. І вось цяпер, пачуўшы слова „марш!“, ён выпрастаўся, выцягнуў рукі па швох і, зрабіўшы паўзварот, памаршаваў у паказаным кірунку. І толькі на парозе Бартэк апамятаўся і са зьдзіўленьнем зірнуў на Магду.

— Ну, што ты, Магда? што ты?

— Марш! марш!

Бартэк увайшоў у хату, але тут-жа на парозе ўпаў. Гарэлка моцна разабрала яго. Ён засьпяваў, а пасьля абвёў вокам хату, шукаючы Франка. Бартэк навет сказаў: *morgen Kerl!* хацяФранка ня было. Рыцар наш зарагатаў, зрабіў адзін крок вельмі вялікі, пасьля два крокі вельмі маленечкія, крыкнуў: гура! і выцягнуўся на кушэтцы. Пад вечар Бартэк устаў, прывітаўся з Франкам і, выпрасіўшы ў Магды ■ дзесяток фэнігаў, урачыста пайшоў у карчму. Слава аб яго дзеях распаўсюджылася ў Пагнэмбіне яшчэ да яго прыходу, таму што некаторыя жаўнеры з іншых кампаніяў таго самага палку, вярнуўшыся раней, расказвалі аб яго дзеяньнях каля Гравэлёту і Сэдану. А цяпер, калі ў вёсцы стала веда-

мым, што пераможнік у карчме, дык усе ранейшыя таварышы зараз-жа пасьпяшаліся да яго.

I вось сядзіць наш Бартэк за сталом, але саўсім іншы, як раней. Ен, калісьці гэткі дабрадушны, ціхі, цяпер стукае кулаком па стале і з павагаю балбоча, як індык.

— А памятаеце, хлопцы, — кажа ён, — як я тады адлупцаваў французаў: што сказаў Штэйнмэц?

— Як-жа ня помніць.

— Чаго толькі не казалі аб французах, палохалі імі, а гэта слабы народ. Яны салату ядуць, як зайцы, і праз гэта ўцякаюць, як зайцы. Піва яны ня п'юць, толькі віно.

— Так.

— Аднаго разу мы палілі нейкую вёску, дык яны выцягвалі да нас рукі і крычалі: *pitié! pitié,* а гэта азначала, што яны дадуць нам піць, абы толькі даць ім спакой. Але мы не зьвярталі на іх увагі.

— Значыцца, можна зразумець тое, што яны гавораць? — спытаўся малады парабак.

— Ты не зразумееш, таму што ты дурны, а я разумею. Done dipe, разумееш?

— Што вы кажаце?

— А Парыж бачылі? Вось там былі баі, адзін за адным. Але мы ў кожным пабілі. У іх няма добрае каманды. Людзі казалі, што плот у іх добры, толькі стаўпы благія. I афіцэры благія, і гэнэралы благія, а ў нас добрыя.

Стары Мацей Беж, чалавек разумны, паківаў галавою.

— Але, немцам пашчасьціла ў гэтай страшэннай вайне, — яны перамаглі, а мы ім памаглі. Але якая карысьць нам будзе ад гэтага, толькі Бог адзін ведае.

Бартэк вырачыў на яго вочы.

— Што вы кажаце?

— Немцы й да вайны не хацелі нас шанаваць, а цяпер гэтак насы задзіраюць, быццам над імі й Бога няма. Яны яшчэ горш будуць зьдзекавацца з нас, дый яно і цяпер ужо зьдзекуюцца.

— Няпраўда! — запярэчыў Бартэк.

У Пагнэмбіне стары Беж карыстаўся гэткім аўторытэтам, што ўся вёска думала, так сказаць, яго галавою, і лічылася грубасьцяй пярэчыць яму, але цяпер Бартэк быў пераможнікам і таксама аўторытэтам.

Аднак-жа, вяскоўцы глянулі на яго са зьдзіўленьнем і навет з некаторым незадаваленьнем.

— Ты што-ж гэта? з Мацеем будзеш спрачацца?

— Што-ж мне Мацей? Я не з такімі гаварыў, разумееце! Хлопцы! Хіба я не гаварыў са Штэйнмэцам, wass? Мацей чыпуху кажа. Цяпер нам будзе лепей.

Мацей з мінюту паглядзеў на пераможніка і пасьля сказаў:

— Эх, ты, дурань!

Бартэк стукнуў кулаком па стале аж усе чаркі і кубкі зазьвінелі.

— Still! der Kerl da! Heu, Stroh...

— Ціха! Не раві. Лепей вось спытайся, дурань, у ксяндза, або ў пана.

— Ды хіба-ж ксёндз быў на вайне? або пан быў? А я быў. Ня верце, хлопцы. Цяпер нас пачнуць шанаваць. Хто выйграў бітву? Мы выйгралі. Я выйграў. Цяпер аб чым ні папрашу, тое й дадуць. Калі захачу быць абшарнікам у Францыі, дык і буду. Урад добра ведае, хто лепей за ўсіх лупіў французаў. Нашыя палкі былі самыя лепшыя. Гэтак пісалася ў прыказах. Цяпер палякам лахва, — разумееце?

Беж махнуў рукою, устаў і выйшаў. Бартэк і ў палітыцы адтрымаў перамогу. Маладыя хлопцы, якія засталіся з ім у карчме, цяпер пазіралі на яго з глыбокаю пашанаю, а ён казаў далей:

Чаго я ні захацеў-бы, тое й дадуць. Стары Беж дурань, разумееце? Урад загадвае біць, дык, значыцца, трэба біць! Хто будзе з мяне зьдзекавацца? Немец? А гэта што?

Тут ён ізноў паказаў на свае крыжы і мідалі.

— А за каго я лупіў французаў? Не за немцаў ці што? Я цяпер лепшы за кожнага немца, таму што ніводзін немец ня мае гэтулькі крыжоў і мідалёў. Дайце піва. Я гаварыў з Штэйнмэцам і гаварыў з Падбельскім. Дайце піва.

Пакрысе начыналася п'янства. Бартэк засьпяваў:

„Trink, trink, trink!
Wenn in meiner Tasche
Noch ein Taler klingt“.

Раптоўна ён выняў з кішаня жменю фэнігаў.

— Бярэце! я цяпер пан... Ня хочаце? Ой, ня гэткія грошы бывалі ў нас у Францыі, толькі кудысьці пайшло. Ці-ж мала мы палілі, білі... Бог ведае каго...

У настроі п'яных людзей часто бываюць раптоўныя зьмены. Бартэк неспадзявана згроб са стала грошы і жаласна сказаў:

— Божа! будзь міласьціў маёй грэшнай душы!

Пасьля гэта ён абапёрся лакцямі аб стол і, затуліўшы твар сваімі лапішчамі, маўчаў.

— Што з табою, — спытаўся нехта з п'яных.

— Чым я вінаваты, — панура прамармытаў Бартэк. — Самі лезьлі. Толькі мне іх было шкада, таму што абодва землякі. Божа, будзь міласьціў! Адзін быў, як зорка румяная. У чародны дзень ён быў белы, як палатно. А пасьля іх яшчэ жывых засыпалі... Гарэлкі.

На мінюту запанавала нейкая панурая ціша. Мужыкі са зьдзіўленьнем паглядалі адзін на аднаго.

— Аб чым ён расказвае? — спытаўся нехта з прысутных.

— Мусі з суменьнем аб нечым гаворыць.

— Праз гэтую вайну чалавек п'е, — прамармытаў Бартэк.

Рыцар наш выпіў адну чарку гарэлкі, пасьля другую. З мінюту ён таіў маўчаньне, затым плюнуў і неспадзявана ізноў прыйшоў у добры настрой духа.

— А вы гаварылі са Штэйнмэцам? а я гаварыў. Гура! Пеце! Хто плаціць? Я...

— Ты плаціш, п‘яніца, ты!—раптоўна пачуўся голас Магды,—але я й табе заплачу, не бядуй!

Бартэк паглядаў на жонку пасалавеўшымі вачыма.

— А ты гаварыла са Штэйнмэцам? хто ты такая?

Магда, не адказваючы яму, зьвярнулася да чулых слухачоў і пачала вычытваць:

— Ой, людзі, людзі, бачыце вы мой сорам, маю горкую долю. Вярнуўся,—я ўцешылася з яго, як з якога-нібудзь добрага, а ён вярнуўся п‘яны. I Бога запомніў, і папольску гаварыць запомніў. Лёг спаць, працьвярозіўся, а цяпер ізноў п‘е ды маім трудом, маім потам расплачваецца. А адкуль ты ўзяў гэтыя грошы? хіба-ж ня я іх дабыла сваею крываваю працаю, сваім стараньнем? Ой, людзі, людзі, гэта ўжо не каталік, не чалавек, гэта немец абадраны, што брэша панямецку ды крыўдзіць людзей. Гэта адшчапенец, гэта...

Тут баба залілася сьлязьмі, і ўзяўшы на актаву вышэй галасіла:

— Раней ён быў мужык дурны, але добры, а цяпер што з яго зрабілі? Чакала я яго ўвечары, чакала й раніцай і, нарэшце, дачакалася. Няма мне ўцехі! О, Божа Усемагутны! Божа Цярплівы! Каб ты ўрэшце зрабіўся немцам.

Апошнія словы Магда выгаварыла гэтак жаласна, блізу што пяючы.

— Ціха,—крыкнуў Бартэк,—а не, дык дам.

— Бі, адсячы галаву, адсячы зараз-жа, забі,

— выгукнула баба і, выцягнуўшы шыю, зьвярнулася да мужыкоў:

— А вы, людзі, глядзеце.

Але мужыкі пачалі выходзіць. Хутка карчма апусьцела, застаўся толькі Бартэк ды яго жонка з выцягненаю шыяю.

— Што ты сваё дыхала выцягваеш, як гусак, — мармытаў Бартэк. — Пайдзём да хаты.

— Адсячы! — паўтарала Магда.

— А вось не адсяку, — запярэчыў Бартэк і засунуў рукі ў кішані.

Шынкар, хочучы спыніць сварку, пагасіў адзіную сьвечку. Зрабілася саўсім цёмна і ціха. Праз мінюту ў цемнаце разьлёгся піскліва голас Магды:

— Адсячы!

— А вось не адсяку,—пачуўся трыумфальны голас Бартэка.

Хутка пры сьвятле месяца па дарозе ў Пагнэмбін відаць было дзьве фігуры. Адна ■ іх, ішоўшая наперадзе, чутна вычытвала,—гэта была Магда, а за ёю, схіліўшы галаву, паслухмяна ішоў пераможнік каля Гравэлёту і Сэдану.

---

## VII.

Бартэк вярнуўся з вайны настолькі слабым, што ў працягу некалькіх дзён ня мог працаваць. Гэта было вялікае няшчасьце для ўсяе гаспадаркі, таму што для некаторых работаў патрэбен быў мужчына. Магда ўпраўлялася, як умела. Працавала яна з раніцы да ночы: суседзі Чамярніцкія памагалі ёй, але ўсё такі гэтага не хапала, і гаспадарка пакрысе йшла да ўпадку. Магда залезла ў доўг колёністаму Юсту, немцу, які некалі купіў у пагнэмбінскага абшарніка пятнаццаць маргоў нібыто нягоднае зямлі, а цяпер меў найлепшую гаспадарку і гатоўку, якую пазычаў, за што даставаў даволі паважныя проценты. Ён пазычаў перш за ўсё абшарніку пану Яжынскаму, прозьвішча якога зіхацела ў „залатой кнізе“, але які якраз па гэтай прычыне павінен быў падтрымліваць бліск свайго роду на адпаведнай вышыні. Юст, аднак-жа, не задавольваўся гэтым і таксама пазычаў сялянам. Вось ужо паўгода, як Магда пазычыла ў яго некалькі дзесяткоў талераў; часьць была паслана Бартэку ў часе вайны. Усё гэта было-б нішто. Бог даў добры ўраджай і доўг лёгка можна было-б пагасіць, абы толькі

ўзяцца за работу. На няшчасьце, Бартэк ня мог працаваць. Магда не асабліва верыла ў гэта і хадзіла да ксяндза па раду, як-бы гэта расчухаць мужыка, але нічога ня выйшла. Бартэк сапраўды ня мог працаваць, бо пасьля кожнае нязначнае работы ён задыхаўся і чуў боль у касьцёх. Праз гэта ўсё рыцар наш цэлыя дні праседжваў перад сваёю хатаю, курыў фарфоравую люльку з патрэтам Бісмарка ў белым мундзэры і кірасьерскім шоламе на галаве ды пазіраў на сьвет змучанымі, соннымі вачыма. Пры гэтым ён падумваў часткаю аб вайне, часткаю аб перамогах, аб Магдзе, часткаю аба ўсім, часткаю ні аб чым.

Але вось, аднаго разу, седзячы на лаўцы, ён пачуў, як плакаў Франэк.

Франэк вяртаўся са школы і роў на ўсю вуліцу.

Бартэк выняў з рота люльку і спытаўся:

— Што з табою, Франэк? чаго равеш?

— А як-жа мне не раўсьці, калі я дастаў па мордзе...

— Хто табе даў у морду?

— А хто-ж, як ня Бэгэ!

Бэгэ поўніў абавязкі настаўніка ў Пагнэмбіне.

— А якое ён мае права біць па мордзе?

— Мусі мае права, бо даў.

Магда, якая ў гэты час капала ў агародзе, пералезла праз плот і з рыдлёўкаю ў руках падыйшла да дзіцяці.

— Чым-жа ж ты правініўся?—спыталася яна.

— Нічым я не правініўся. Бэгэ аблаяў мяне польскаю сьвіньнёю, даў мне ў морду і сказаў, што цяпер немцы перамаглі французаў і будуць лупіць нас, таму што яны цяпер дужэйшыя за ўсіх. Я яму нічога не зрабіў, толькі, калі ён спытаўся, хто найважнейшая асоба на сьвеце, а я адказаў, што Сьвяты Айцец, тады ён даў мне ў морду, а я пачаў крычаць, а ён вылаяў мяне польскаю сьвіньнёю і сказаў, што як цяпер яны перамаглі...

Франэк ізноў пачаў з таго самага і так і паўтараў: „а ён мне сказаў, а я яму сказаў“. Нарэшце, Магда затуліла яму твар рукою і, зьвярнуўшыся да Бартэка, выгукнула:

— Чуеш, чуеш... вось ідзі ваюй з французамі, а пасьля хай немец б'е тваё дзіця, як сабаку, ды лае!.. ідзі, ваюй... няхай шваб забівае тваё дзіця; вось табе нагрода...

Тут Магда, расчуленая ўласнаю красамоўнасьцю, расплакалася разам з Франкам, а Бартэк вырачыў вочы, разявіў рот і зьдзівіўся — гэтак зьдзівіўся, што ня мог выгаварыць а ні слова. Але перш за ўсё ня мог зразумець таго, што здарылася. Як гэта? А яго перамогі... З мінюту Бартэк моўчкі сядзеў на лаве, але вось вочы яго заблішчэлі, твар пачырванеў. У падобных да яго людзей, зьдзіўленьне таксама, як і перапалох, часта пераходзіць у шалёную злосьць. Бартэк раптоўна ўстаў і, прамармытаўшы праз зубы: „Я з ім пагавару!“, скіраваўся да настаўніка. Школа была недалёка, тут-жа за касьцёлам. Якраз у гэты

чао пан Бэгэ стаяў перад ганкам, абкружаны парасятамі, якім ён кідаў кавалкі хлеба.

Гэта быў чалавек высокага росту, гадоў каля пяцёхдзесяцёх, але яшчэ моцны, як дуб. Ён быў ня надта тоўсты, толькі твар яго быў вельмі поўны, а ў гэтым твары плавалі вельмі рыбячыя вочы, ў якіх адбівалася адвага і энэргія.

Бартэк падыйшоў да яго і спытаўся:

— Ты гэта за што, немец, б'еш маё дзіця? was?

Пан Бэгэ адступіў на некалькі крокаў, зьмерыў вачыма Бартэка бяз ценю страху і флегматычна сказаў:

— Вон, польскі „дурань!"

— Ты за што дзіця б'еш?—паўтарыў Бартэк.

— Я й цябе буду біць, польскі „хаме". Цяпер мы вам пакажам, хто тут гаспадар. Ідзі к чорту, жалься ў суд... проч!

Бартэк схапіў настаўніка за плячо, пачаў моцна яго трасьці і крыкнуў сільным голасам:

— Ды ці ведаеш ты, хто я такі? ці ведаеш, хто французаў адлупцаваў? ці ведаеш, хто гаварыў са Штэйнмэцам? За што б'еш дзіця, швабская морда?

Рыбячыя вочы Бэгэ вырачыліся ня горш, як у Бартэка, але Бэгэ быў чалавекам дужым і рашыў адным махам звольніцца ад нападаўшага.

Немец размахнуўся і тра́хнуў па шчацэ пераможніка пры Гравэлёце і Сэдане. Тады мужык раззлаваўся і з нязвычайнаю шпаркасьцю зьмерыў два разы па вуху Бэгэ. У Бартэку ізноў абудзіўся

жаўнер, гэтак страшна біўшы туркосаў і зуаваў. Дарэмна сын Бэгэ, дваццацьгадовы Оскар, мужчына таксама дужы, як і бацька, пасьпяшыў да бацькі на падмогу. Адбылася нядоўгая, страшэнная барацьба, ў якой сын упаў на зямлю, а бацька пачуў сябе паднятым у паветра. Бартэк выцягнуў угару рукі, нёс яго, сам ня ведаючы куды. На няшчасьце каля хаты стаяла бочка з памыямі для сьвіней. Цераз мінюту з гэтае бочкі тырчэлі толькі ногі Бэгэ, якія зараз-жа адчайна імі затрапястаўся.

Настаўнікава жонка выбегла з хаты і на ўвесь голас закрычала:

— На падмогу, ратуйце!

Жанчына ня згубіла галавы, — незабаўна перакуліла бочку і выліла з яе свайго мужа ра зам з памыямі.

З найбліжэйшых хатаў колёністыя пасьпяшылі на падмогу суседзям.

Каля дваццацёх немцаў кінуліся на Бартэка і пачалі яго лупцаваць кіямі і кулакамі. Адбыўся покат, усе зьбіліся ў адну купу, ў якой трудна было адрозьніць Бартэка ад ворагаў.

Раптоўна з гэтае купы біўшыхся Бартэк выскачыў, як шалёны, і пабег да плоту.

Немцы кінуліся за ім, але адначасна разьлёгся моцны трэскат плоту і ў тую-ж мінюту ў жалезных лапах Бартэка апынулася здаравенная жэрдка.

Ён з шаленствам павярнуўся тварам да во-

рагаў і падняў угару сваю жэрдку: усе кінуліся, хто куды.

Бартэк паляцеў за імі.

Нашчасьце, ён нікога не даганіў. За гэты час ён апрытомнеў і пачаў адходзіць да вёскі. Ах, калі-б перад ім былі французы! Яго адступленьне абясьсьмерціла-б гісторыя.

Справа адбывалася гэтак: колёністыя ў ліку дваццацёх чалавек ізноў рушылі на Бартэка. Ён марудна адходзіў, як дзік, гнаны сабакамі. Час ад часу ён павяртаўся і спыняўся, і тады спыняліся немцы, бо не адважваліся кінуцца на гэтага волата, азброенага жэрдкаю.

Немцы, баючыся падыйсьці, здалёк кідалі ў непрыяцеля каменьні. Адзін з гэтых каменьняў раніў Бартэка ў лоб. Кроў пачала заліваць яму вочы. Ён пачуваў, што слабее, нарэшце захістаўся і, выпусьціўшы з рук жэрдку, ўпаў.

— Гура! — гукнулі колёністыя.

Але раней, чымся яны дабеглі, Бартэк ізноў падняўся. Гэта іх стрымала. Гэты ранены воўк яшчэ мог быць небясьпечным. Пры гэтым было ўжо недалёка да вёскі і здалёк можна было бачыць некалькі парабкоў, якія, як мага, беглі на поле бітвы. Колёністыя пасьпешна адступілі да сваіх хатаў.

— Што здарылася? — спыталіся прыбегшыя парабкі.

— Я крыху пашчупаў немцаў, — адказаў Бартэк.

І ў тую-ж мінюту самлеў.

## VIII.

Справа прыняла сур'ёзны зварот. У нямецкіх газэтах зьявіліся вельмі чулыя артыкулы аб прасьледаваньнях мірнага нямецкага насяленьня барбарскаю цёмнаю масаю, падбухторванаю анты-ўрадоваю агітацыяй і рэлігійным фанатызмам. Бэгэ зрабіўся рыцарам. Ён, ціхі, ласкавы настаўнік, сеяўшы прасьвету на далёкіх акраінах дзяржавы, ён сапраўдны місіянэр культуры сярод барбараў, першы ўпаў ахвяраю непарадкаў. Нашчасьце, за ім стаяць мільёны немцаў, якія не пазволяць, каб і г. д.

Бартэк ня ведаў, які гром зьбіраецца над яго галавою. Наадварот, ён чакаў спагаднага рэзультату і быў пэўны, што выйграе справу ў судзе. То-ж Бэгэ пабіў яго дзіця і першы ўдарыў яго самога, а пасьля на яго напала гэтулькі колёністых. То-ж павінен ён быў бараніцца. Да таго-ж яму разьбілі галаву каменем. І каму? Яму, якога прозьвішча гэтак часта ўспаміналася ў прыказах, яму, які выграў бітву пры Гравэлёце, які гаварыў з самім Штэйнмэцам, які быў надараны гэтулькімі знакамі ад'значэньня! Яму здавалася проста немагчымым, каб немцы ўсяго гэтага ня

ведалі і гэтак яго скрыўдзілі, як таксама яму здавалася немагчымым, каб Бэгэ мог казаць пагнэмбінцам, што цяпер немцы будуць душыць іх за тое, што яны, пагнэмбінцы, гэтак адважна біліся з французамі. Але што датычыць сябе, дык Бартэк быў пэўны, што суд і ўрад абароніць яго. Там-жа ведаюць, хто ён такі і што рабіў на вайне. Ды хоць-бы і той самы Штэйнмэц абароніць яго. Гэта-ж ён цераз гэтую вайну зьбяднеў і ў даўгі залез, і ня могуць-жа ж яму адмовіць у справядлівасьці.

Тымчасам у Пагнэмбін прыехалі па Бартэка жандары. Яны відочна чакалі страшэннага спраціўленьня, таму што іх прыехала аж пяць чалавек і ўсе з набітымі стрэльбамі. Яны памыліліся: Бартэк навет і ня думаў спраціўляцца. Яны сказалі яму сесьці ў брычку: ён сеў. Толькі Магда згубіла надзею і так і паўтарала:

— На якога чорта трэ' было табе гэтак ваяваць з французамі. Вось табе й нагарада!

— Ціха, дурная! — адказваў Бартэк і па дарозе весела ўсьмехваўся праходзіўшым.

— Я ім пакажу, каго яны скрыўдзілі, — крычаў ён з брычкі.

І са сваімі крыжамі на грудзёх наш Бартэк ехаў на суд, як трыумфатар.

І праўда, суд аказаўся да яго літасьцівым. Там прызналі істнаваньне лагодзячых віну акалічнасьцяў, і Бартэк быў засуджаны толькі на тры месяцы вастрогу.

Апрача таго яго засудзілі да штрафу ў сто

пяцьдзесят марак на карысьць дружыны Бэгэ і іншых „зьняважаных дзеяньнем" колёністых.

„Аднак-жа праступнік, — пісалася ў судовай справаздачы ў газэце „Posener Zeitung" (Пазнанская Газэта), — пасьля абвешчаньня яму прыгавару ня толькі ня выказаў ані кроплі пакаяньня, але яшчэ разыйшоўся гэткімі грубымі словамі і гэтак нахальна ставіў на від дзяржаве свае нібыто заслугі, што трэба толькі дзівіцца, што прысутны пры гэтым пракурор не завёў проці яго новае справы за зьнявагу суда і нямецкага народу".

Тымчасам Бартэк, седзячы ў вастрозе, думаў аб сваіх дзеяньнях каля Гравэлёту, Сэдану і Парыжа.

Мы, аднак-жа, зрабілі-б несправядлівасьць, цьвердзячы, што і пастурак Бэгэ ня выклікаў ніякага публічнага асуджэньня. Наадварот, наадварот! У адно даждлівае раньне ў нямецкім рэйхстагу нейкі польскі пасол вельмі красамоўна даводзіў, што адносіны да палякоў у Пазнанскай провінцыі зьмяніліся на горшае, што за мужнасьць, выказаную на вайне пазнанскімі палкамі, і панесеныя імі ахвяры варта было-б адносіцца да палякоў болей гуманна і справядліва, што, нарэшце, пан Бэгэ ў Пагнэмбіне злоўжываў сваім палажэньнем настаўніка, цазваляючы сабе біць польскіх дзяцей, называць іх сьвіньнямі і казаць, што пасьля нядаўна скончанае вайны прышлае насяленьне будзе душыць і прыгнятаць тубыльцаў.

І калі пасол гэта казаў, дык ішоў дождж,

а дзеля таго, што ў часе дажджу людзей апаноўвае соннасьць, дык праз гэта пазёўвалі консэрватары і нацыяналь-лібэралы, пазёўвалі й соцыялістыя, пазёўваў і цэнтр, таму што гэта адбывалася яшчэ да вядомае „культурнае барацьбы“.

Урэшце ўсяго парлямэнт не палічыў патрэбным дэбатаваць гэтую „польскую скаргу“ і спакойна перайшоў да чарговых справаў.

Тымчасам Бартэк сядзеў у вастрозе, ці, праўдзівей кажучы, ляжаў у вастрожным шпіталі, таму што ад удару каменем у яго адкрылася рана, адтрыманая ім на вайне.

Калі ў яго ня было гарачкі, дык ён думаў, як той індык, які здох з думак. Але Бартэк ня здох, а толькі нічога ня выдумаў.

Аднак, інады ў мінюту прасьвятленьня яму прыходзіла да галавы думка, што, быць можа, дарэмна ён гэтак лупіў французаў.

А тымчасам Магдзе прыходзілася надта туга. Трэ' было плаціць штраф, а грошай ня было скуль узяць. Пагнэмбінскі ксёндз хацеў памагчы, але ў касе ў яго знайшлося толькі каля сараку марак. Пагнэмбін быў беднаю парафіяй дый пры гэтым у старога ксяндза ніколі грошы не залежваліся. Пана Яжынскага ня было дома. Казалі, што ён выехаў сватацца да нейкае багатае паненкі ў Каралеўства Польскае.

Магда проста ня ведала, што рабіць.

Аб адсрочцы штрафу дарма было і думаць. Дык што-ж у гэткім выпадку рабіць? Прадаць коні, каровы? Час быў самы цяжкі: надходзіла

жніво і пільна былі патрэбны грошы. Магду ахапіла роспач. Яна падала некалькі прашэньняў у суд аб памілаваньні, саслаўшыся ў іх на заслугі Бартэка, але не адтрымала навет і адказу. Срок надходзіў, а разам з ім і сэквэстар.

Яна малілася і малілася, з горкасьцю спамінаючы ранейшы час да вайны, калі яны жылі ў дастатку, і калі Бартэк зімою зарабляў на фабрыцы. Баба пайшла да сваіх кумоў з мэтаю падпазычыць некаторую суму, але ў іх ня было грошай. Вайна ўсім дала сябе пачуць. Да Юста Магда не адважвалася йсьці, таму што і без таго была вінавата яму і не плаціла навет працантаў. Тымчасам Юст неспадзявана сам прыйшоў да яе.

Аднаго разу ў поўдзень яна сядзела на парозе свае хаты і нічога не рабіла, таму што з роспачы проста аслабела. Магда сачыла за лятаўшымі ў паветры залацістымі мушкамі і думала аб тым, што яны гэтак шчасьлівыя, бяз клопату сабе лётаюць і ім нікому ня прыходзіцца плаціць. Час ад часу яна цяжка ўздыхала і ціха шаптала: „О, Божа, Божа!“. Раптоўна ў варотах зьявіўся Юст з фарфораваю люлькаю ў роце. Баба зьбялела.

— Morgen! — сказаў Юст.

— Як маецеся, пане Юст?

— А мае грошы?

— Пачакайце крыху, пане Юст. Што я, бедная, зраблю? Мужа майго ўзялі, і мне цяпер прыходзіцца за яго плаціць штраф. Лепей ужо мне памерці, чымся гэтак мучыцца з дня на дзень.

Пачакайце крыху, вось прыедзе абшарнік, я ў яго папрашу грошай і вам аддам.

— Ну, а штраф з чаго заплаціце?

— Ці я ведаю? Мусі прыдзецца карову прадаць.

— Я вам яшчэ пазычу.

— Хай вам Бог заплаціць. Вы хоць і лютаранін, а ўсё-ж такі добры чалавек. Я кажу праўду. Каб усе немцы былі гэткімі, як вы, дык тады лягчэй жылося-б людзям.

— Але я без процанту ня дам

— Я ведаю, ведаю.

— Вы мне напішэце вэксаль на ўсю ўзятую вамі суму.

— Добра, хай вам Бог заплаціць.

— Я буду ў месьце і мы там напішам вэксаль.

Юст быў у месьце і ўсё аформлена, але перад гэтым Магда пайшла да ксяндза на раду. Але што тут было радзіць? Ксёндз казаў, што срок быў вельмі кароткі, што процанты вельмі вялікія, і вельмі шкадаваў, што Яжынскага няма дома, бо каб ён быў, дык, можа, і памог-бы. Аднак-жа Магда не магла-ж чакаць, пакуль у яе з ліцытацыі прададуць усю маемасьць і праз гэта мусіла згадзіцца на запрапанаваныя Юстам варункі. Яна пазычыла трыста марак, бо, заплаціўшы штраф, трэ' было мець некаторую суму ня вядзеньне гаспадаркі. Бартэку прышлося падпісаць гэтую паперу. Магда з гэтай мэтаю пайшла да яго ў вастрог. Пераможнік быў хворы і ў вельмі пры-

гнечаным стане. Ен напісаў быў яшчэ адну скаргу, але яе ня прынялі. Артыкулы Posener Zeitung зрабілі нядобрае ў адносінах да яго ўражаньне ў урадовых сфэрах. Таму што, няўжо-ж улады не павінны былі клапаціцца аб мірным нямецкім насяленьні, якое ў апошняй вайне выказала гэткую любасьць да бацькаўшчыны і панясло гэтулькі ахвяраў? Дзеля гэтага было саўсім справядліва, каб Бартэкаву скаргу саўсім адхілілі. Але разам з тым няма дзіва, што гэта над'звычайна цяжка на яго падзеяла.

— Мы цяпер ужо аканчальна згінем, — сказаў ён.

— Аканчальна, — паўтарыла баба.

Бартэк пачаў аб нечым думаць мацней.

— Мяне жорстка скрыўдзілі, — сказаў ён.

— Бэгэ цяпер прасьледуе хлопчыка,—казала Магда. Я хадзіла яго прасіць, а ён мяне яшчэ вылаяў. Ой, цяпер у Пагнэмбіне немцы рэй вядуць. Яны цяпер нікога не баяцца.

— Але, цяпер яны дужэйшыя за ўсіх, — сумна заўважыў Бартэк.

— Я хоць і простая жанчына, але скажу табе, што дужэйшы за ўсіх Бог.

— У ім нам ратунак, — дадаў Бартэк.

Настала мінютная маўчанка.

— Ну, а што Юст? — спытаўся Бартэк.

— Каб Усемагутны Бог даў ураджай, дык можа як-нібудзь, яму й аддамо наш доўг. Быць можа, таксама й абшарнік нам паможа, хаця й сам ён у даўгох у немцаў. Яшчэ перад вайною

людзі казалі, што яму прыдзецца прадаць Пагнэмбін. Хіба, мо, ажэніцца з багатаю.

— А хутка ён вернецца?

— Хто яго ведае. У двары кажуць, што хутка ён прыедзе з жонкаю. Як ён вернецца, дык немцы яго прыціснуць. Заўсёды гэтыя немцы! Лезуць яны, быццам чэрві! Куды ні глянеш, дзе ні паглядзіш, у вёсцы ці ў месьце — ўсюды немцы. Гэта мусі за нашыя грахі. А ратунку няма скуль чакаць!

— Можа ты што-нібудзь прыдумаеш, то-ж ты разумная жанчына.

— Што я прыдумаю, што? Хіба я па добрай волі брала ў Юста грошы! Але, нарэшце, брала на справу, а цяпер гэтая хата, ў якой мы сядзімо, і ўся нашая зямля — гэта ўжо яго. Юст лепшы за іншых немцаў, але й ён мае на ўвазе сваё дабро, а ня чужое. Юст ня дасьць адсрочкі, як і іншым ня даў. Хіба-ж я гэткая дурная, хіба-ж я ня ведаю, нашто ён мне суне грошы! Але што-ж рабіць! што рабіць! — казала яна ў роспачы, — радзь ты, калі разумны. Французаў ты ўмеў біць, а што будзеш рабіць, як у цябе ня будзе страхі над галавою, альбо ня будзе чаго есьці?

Пераможнік каля Гравэлёту схапіўся за галаву.

— О, Божа! Божа! — выгукнуў ён.

У Магды было добрае сэрца; яе расчуліла гэтая Бартэкава мука і яна тут-жа сказала:

— Ціха! ціха! не хапайся за галаву, калі рана яшчэ не загаілася. Абы толькі Бог даў

ураджай! Жыта гэткае добрае, што навет зямлю хочацца цалаваць, пшаніца таксама. Зямля ня немец, ня скрыўдзіць. Хаця па тваёй віне поле згарана было і ня надта добра, аднак-жа расьце якнайлепей.

Добрая Магда навет усьмяхнулася цераз сьлёзы.

— Зямля ня немец,— яшчэ раз паўтарыла яна.

— Магда!—прамовіў Бартэк, гледзячы на яе сваімі вырачанымі вачыма, — Магда!

— Чаго?

— Дык ты... гэткая... таго...

Бартэк пачуваў да яе вялікую ўдзячнасьць, але ня ўмеў гэтага выказаць.

---

## IX.

Магда, сапраўды, была вельмі добрая і працавітая жанчына. Праўда, што яна не давала волі мужу, але ўсё такі шчыра да яго была прывыкшы. У мінюту гневу, як напрыклад у дзень яго прыезду ў карчме, Магда казала яму проста ў вочы, што ён дурны, але сама хацела, каб людзі думалі йначай: „Мой Бартэк, — няраз казала яна,—толькі прыкідаецца дурным, а напраўду ён хітры“. Тымчасам, Бартэк быў так-жа сама хітры, як і яго

конь, і бяз жонкі ня мог-бы ўправіцца з гаспадаркаю. Пра ўсё прыходзілася дбаць і думаць толькі ёй адной. Вось і цяпер яна ўсюды хадзіла, прасіла, клапацілася і, нарэшце, выпрасіла. Праз тыдзень пасьля першых адведзінаў, Магда йзноў прыбегла да Бартэка радасная і шчасьлівая.

— Як маешся, Бартэк!—радасна гукнула яна, —ведаеш, прыехаў пан. Ажаніўся ў Каралеўстве Польскім; жонка яго, быццам ягадка. А колькі ён дабра ўзяў за ёю, дык а-ёй!

Сапраўды ўласьнік Пагнэмбіна ажаніўся, прыехаў з жонкаю ў свой двор і праўда, што ўзяў за ёю шмат „усялякага дабра“.

— Дык што-ж з таго? — спытаўся Бартэк.

— Маўчы, дурны,— сказала Магда.— Ох!.. як я задыхалася!.. О, Божа!.. Пайшла я пакланіцца пані, гляджу: выходзіць да мяне, быццам каралеўна якая-нібудзь, маладзенькая, як вясьняная кветачка, і прыгожая, як зорка... Вось сьпёка! ух, як я задыхалася!...

Магда пачала выціраць хвартухом свой спацеўшы твар. Праз мінюту яна йзноў казала перарыўчатым ад утомы голасам:

— Вопратка на ёй была блакітная... Я ўпала да яе ног... яна дала мне сваю руку, я пацалавала яе, а ручкі-ж у яе, пахнючыя і маленечкія, быццам у дзіцяці. Пані добрая і спачувае людзкому гору. Я пачала прасіць у яе выратаваць нас... А яна кажа: „Што я магу зрабіць, тое зраблю“. Голас у яе гэтак прыемны, тоненькі. Калі я расказала, які ў Пагнэмбіне няшчасны народ, дык

пані заўважыла: „Эх, ня толькі ў Пагнэмбіне“... Я тут заплакала і яна таксама. У гэты час прыйшоў пан і, як толькі ўбачыў, што пані плача, дык адразу пачаў яе цалаваць у губы і ў вочы. Паны ня гэткія, як вы! Вось яна яму і кажа: „Зрабі для гэтае жанчыны, што можаш“. А ён адказвае: „Усё зраблю, што толькі хочаш“. Хай багаславіць яе Маці Божая, хай дасьць ёй здароўе і шчасьце! А пан мне сказаў: „Вы вінаваты, таму што далі сябе апутаць немцам, але ўсё такі, я вас выратую, і дам грошай, каб вы разьлічыліся з Юстам“.

Бартэк пачасаў патыліцу.

— Але, гэта-ж і пан быў у лапах у немцаў — заўважыў ён.

— Ну, дык што! але пані багатая. Цяпер, нашыя паны маглі-б купіць усіх пагнэмбінскіх немцаў, а праз гэтае пану можна гэта казаць. Вось будуць выбары,—сказаў пан, дык трэба, каб усе вы галасавалі не за немцаў, а за сваіх, а грошай на расплату з Юстам я дам і Бэгэ ўціхаміру. Пані за гэта абняла яго, а пан пасьля таго спытаўся пра цябе і сказаў, што калі ты слабы, дык ён пагаворыць з доктарам, які напіша пасьведчаньне, што ты цяпер ня можаш сядзець у вастрозе.—Калі яго ня звольняць саўсім — казаў пан, дык ён адсядзіць зімою, а цяпер ён патрэбен ў гаспадарцы, таму што хутка жніво. Чуеш! Учора пан быў у месьце, а сёньня доктар едзе ў Пагнэмбін з візытам, таму што пан яго запрасіў. Ен ня немец і дасьць табе пасьведчаньне. Узімку

будзеш сядзець тутака, як король, табе будзе цёпла і жэрці табе дарма дадуць, а цяпер пайдзеш да хаты працаваць. Юсту аддамо доўг, можа пан дасьць бяз ніякіх процантаў, а калі нам ня ўдасца расплаціцца ўвосень, дык я папрашу ў пані пачакаць. Хай яе крые Маці Божая... Чуеш...

— Трэба праўду сказаць — добрая пані — прамовіў Бартэк.

— Пакланіся ёй у ногі, а не, дык я табе галаву скручу. Абы толькі Бог даў ураджай! Цяпер бачыш, адкуль ратунак? Ад немцаў, ці што? ці далі яны табе хаця грош за твае дурныя мідалі? га? яны табе далі па мазгаўні дый годзі. Дык пакловішся ёй у ногі? Чуеш?

— Чаму-ж не пакланіцца! — шпарка адказаў Бартэк.

Здавалася, што лёс ізноў усьміхаўся перáможніку. Цераз некалькі дзён яму заявілі, што з прычыны хваробы ён звальняецца з вастрогу аж да зімы. Аднак-жа перад гэтым ляндрат паклікаў яго да сябе. Бартэк зьявіўся. Гэты мужык, які са стрэльбаю ў руках захапляў у непрыяцеля штандары і гарматы, цяпер пачаў баяцца кожнага мундзера горш як сьмерці; ён несьвядома адчуваў, што яго прасьледуюць, што з ім могуць зрабіць усё, што захочуць, што над ім ёсьць нейкая вялізарная варожая да яго і злая сіла, якая можа зьнішчыць яго, калі ён здумае працівіцца ёй. Бартэк стаяў перад ляндратам выпрастаўшыся і рукі па швох, як некалі перад Штэйнмэцам. У пакоі, апрача ляндрата, было яшчэ некалькі

афіцароў. Бартэку зараз-жа ўспомнілася вайна і вайсковая дысцыпліна. Тыя глядзелі на яго з пыхаю й пагардаю, як і належыць глядзець прускім афіцэром на простага жаўнера і польскага мужыка. Бартэк стаяў, стрымліваючы дух, а ляндрат нешта казаў загадным тонам. Ен не прасіў, не ўгавараваў, але загадваў, пагражаў. Ляндрат заявіў нашаму рыцару, што ў Бэрліне памёр пасол і праз гэта на яго месца будуць выбіраць іншага.

— Du, polnisches Vich (Ты, польская жывёла) паспрабуй толькі галасаваць на карысьць пана Яжынскага, паспрабуй!

Афіцэры ў гэтую мінюту грозна насунулі бровы і адзін з іх сьледам за ляндратам паўтарыў: „паспрабуй!“ У пераможніка дух замёр. Пачуўшы, нарэшце, пажаданае: „ідзі вон!“, ён зрабіў паўзварот налева, і вышаўшы на вуліцу, з палягчэньнем уздыхнуў. Яму было загадана галасаваць на карысьць Шульбэрга з Вялікае Кшывды. Над загадам Бартэк не задумваўся, бо думкі яго былі занятыя іншым. Ен цешыўся з волі, з насалодай пазіраў на загоны сьпеўшага збожжа і з насалодаю ўслухваўся ў шамаценьне каласоў. „Ах! добра цяпер на сьвеце—думаў змучаны жаўнер—вельмі добра. І да Пагнэмбіна ўжо недалёка“.

## X.

Выбары! выбары! Пані Яжынская цалком занята імі, ні аб чым іншым ня думае, не лятуціць і не гаворыць, як толькі аб выбарах.

— Вы — вялікі палітык, — кажа ёй сусед—шляхціц, цалуючы яе маленечкія ручкі, а вялікі палітык чырванее і з чароўнаю усьмешкаю адказвае:

— О, мы агітуем, наколькі магчыма!

— Ваш муж будзе паслом,—з няпэўнасьцяй заўважае шляхціц, а „вялікі палітык“ адказвае:

— Я вельмі хацела-б гэтага, хаця тут справа йдзе ня толькі аб маім мужу,—пры гэтым вялікі палітык ізноў непалітычна чырванее, — але... але аб будных інтар‹сах нашага народу.

— Вы — сапраўдны Бісмарк! далібог! — выгуквае шляхціц дый зноў цалуе маленечкія ручкі, а пасьля абое пачынаюць радзіцца датычна агітацыі.

Шляхціц бярэ на сябе Ніжнюю Кшывду і Мізэраў (Вялікая Кшывда страчана, таму што ёю ўладае нейкі Шульбэрг), а пані Яжынская замерваецца заняцца перш за ўсё Пагнэмбінам. Яна вельмі ірытуецца, але ўсё ж часу дарма не марнуе і штодня бывае ў вёсцы. Па дарозе туды пані

Яжынская кажа ўсім, якія працуюць, сялянам: „Памажы Божа“... пасьля заходзіць у хаты, адведвае хворых і памагае, дзе можа. Яна рабіла-б гэта і без палітыкі, бо ў яе добрае сэрца, але ў імя палітыкі тым болей. Чаго толькі яна не зрабіла-б у імя гэтае палітыкі?! Пані Яжынская не адважваецца толькі прызнацца мужу, што ёй страшэнна хочацца паехаць на сходку сялян, — яна навет зложыла адпаведную выпадку прамову. Што гэта за прамова! што гэта за прамова! Праўда, яна найхутчэй за ўсё, не адважылася-б яе сказаць, але каб сказала, дык... эфэкт быў-бы нязвычайны! А калі ў Пагнэмбін прыйшла вестка, што ўлады разагналі сходку, дык „вялікі палітык“ са злосьці расплакаўся ў сваім пакоі, падраў насавую хустачку і цэлы дзень хадзіў з пачырванеўшымі ад сьлёз вачыма. Дарэмна муж прасіў яе і ўгавараваў ня прыймаць гэтага так блізка да сэрца і не паддавацца да гэткае ступені роспачы. У чародны дзень агітацыя ў Пагнэмбіне вялася з яшчэ большаю энэргіяй і гарачкаю. Пані Яжынская не адступае цяпер ні перад чым. За адзін дзень яна адведвае дваццаць хатаў і гэтак гучна лае немцаў, што муж павінен яе стрымліваць, хаця, праўду кажучы, няма ніякае небясьпекі. Сяляне прымаюць яе з радасьцю, цалуюць ёй рукі, прыветна усьмяхаюцца ёй, таму што яна гэткая прыгожая, мілая, так што куды ні зайдзе, у ўсіх на душы робіцца сьвятлей. Па чарзе яна ўваходзіць і ў Бартэкаву хату. Лысы яе ня пушчае але Магда з гарачкі пушчае ў яго паленам.

— О, дарагая панечка! — выгуквае баба, — мая ты красулечка, мая ты ягадка! — і цалуе яе рукі.

Бартэк, згодна з пастановаю, падае ёй да ног; малы Франэк спачатку цалуе яе ў руку, а пасьля суне палец у рот і з нязвычайным зьдзіўленьнем аглядае прыбыўшую.

— Я спадзяюся, — кажа пасьля прывітаньняў маладая пані,— я спадзяюся, Бартэк, што вы будзеце галасаваць на карысьць майго мужа, а не на карысьць Шульбэрга.

— О, мая зорка! — выгуквае Магда, — хто-ж будзе галасаваць на карысьць Шульбэрга! Няхай ён спруцянее! (Пры гэтым яна цалуе паню ў рукі). Вы ўжо мне даруйце, але калі чалавеку прыходзіцца гаварыць аб немцах, дык трудна ўтрымацца ад моцнага слаўца.

— Муж мне казаў, што ён дасьць вам грошай на тое, каб вы маглі аддаць доўг Юсту.

— Хай багаславіць Бог вашага мужа!—кажа Магда, а затым зьвяртаецца да Бартэка: — Чаго стаіш, як пень?.. Ен, панечка, надта неразгаворчывы.

— Значыцца, вы будзеце галасаваць на карысьць майго мужа? — пытаецца пані Яжынская, —ці-ж ня праўда? Вы палякі і мы палякі—будзем падтрымліваць адны адных.

Я яму галаву скруціла-б, калі-б не галасаваў! —заўважае Магда.—Ну, чаго стаіш, як пень? Ен страшэнна неразгаворчывы. Ды варушыся-ж!

Бартэк ізноў цалуе паню ў руку, але ўсё

маўчыць і сумны, як ноч. Яму спамінаецца лядрат.

* * *

Дзень выбараў падходзіць бліжэй і, нарэшце, надходзіць. Пан Яжынскі пэўны ў перамозе. У Пагнэмбін зьяжджаюцца суседзі. Выбаршчыкі з ваколічнае шляхты, ўжо кінуўшыя свае галасы, вяртаюцца з места і спыняюцца ў Пагнэмбіне, чакаючы весткі аб рэзультаце выбараў. Вестку гэтую падасьць ксёндз. Пасьля будзе палудзень, а ўвечары Яжынскія паедуць у Пазнань, а пасьля ў Бэрлін. Некаторыя вёскі з выбарчага вокругу галасавалі ўчора. Сягоньня будзе вядомы аканчальны рэзультат. Аднак-жа ўсе сабраныя блізу што пэўныя ў спагадным канцы выбараў. Пані Яжынская хаця крыху й ірытуецца, але ўсё такі мае поўную надзею і гэтак ласкавая да гасьцей, што ўсе прызнаюць, што пан Яжынскі знайшоў у Каралеўстве Польскім у поўным сэнсе слова скарб. Тымчасам гэты скарб ня можа сядзець спакойна на адным месцы, перабягае ад гасьця да гасьця і змушае кожнага сто разоў запэўняць яе, што яе муж будзе выбраны. Па праўдзе яна не зухаватая і не для пыхі хоча быць паняю пасьліхаю, але ў яе зьявілася думка, што ёй і мужу надходзіць час выпаўніць важную місію. Сэрца ў яе стукаціць таксама моцна, як і падчас вясельля, і яе прыгожы твар зьзяе радасьцю. Спрытна лявіруючы сярод гасьцей, яна падходзіць да мужа, цягне яго за рукаў і з чароўнаю усьмеш-

каю шэпча яму ў вуха: „Пан пасол!“ Ен у сваю чаргу ўсьмяхаецца й абое яны нявымоўна шчасьлівыя. Абаім вельмі хочацца расцалавацца, але сьлівыя. Абаім вельмі хочацца расцалавацца, але пры гасьцёх гэта нязручна. Усе прысутныя штохвілінна з нецярплівасьцю паглядаюць у вакно, таму што справа сапраўды важная. Раней.шы, нядаўна памёршы, пасол быў паляк, і толькі першы раз у гэтым вокрузе немцы выстаўляюць свайго кандыдата. Як відаць, пераможная вайна зрабіла іх адважнейшымі, але якраз дзеля гэтага для ўсіх сабраных у пагнэмбінскім двары тым болей важна, каб быў выбраны іхні кандыдат. Яшчэ перад палуднем няма недахвату ў патрыятычных прамовах, якія робяць асабліва моцнае ўражаньне на маладую гаспадыню, як няпрывыкшую да іх. Час ад часу яе ахапляе пабойваньне. А што, калі немцы зробяць якія-нібудзь злаўжываньні пры падлічаньні галасоў? Але-ж у камітэце засядаюць не адны немцы. Людзі, дасьведчаныя ў гэтым сэнсе, тлумачаць ёй, як адбываецца аблічаньне галасоў. Яна чула гэта ўжо сто разоў, але й яшчэ хоча чуць. Дый ня дзіўна. Гэта-ж справа крыецца ў тым, ці будзе ў мясцовага насяленьня ў парлямэнце абаронца, ці вораг? Гэтае важнае пытаньне хутка вырашыцца, навет вельмі хутка, таму што ўжо на дарозе раптоўна паднімаюцца стаўпы пылу. „Ксёндз едзе! ксёндз едзе!“— гукнулі прысутныя. Пані Яжынская бялее. На тварах усіх сабраных адбіваецца неспакой. Хоць і ўсе пэўны ў перамозе, аднак-жа ў апошнюю мінюту ўва ўсіх сэрцы пачынаюць стукаць мацней.

Але гэта ня ксёндз, — гэта з места конна вяртаецца дворны. Можа яму што-нібудзь вядома. Вось ён прывязвае каня да плоту і сьпяшаецца ў двор. Госьці з гаспадыняю дому на чале выбягаюць на ганак.

— Есьць весткі? Есьць? Што? Хадзі-ж сюды! Ты ведаеш напэўна? Абвешчаны рэзультат?

Пытаньні сыплюцца, як град, а мужык кідае шапку ўгару.

— Наш пан выбраны!

Пані Яжынская раптоўна сядае на лаву і прыціскае руку да грудзей.

— Няхай жыве! Няхай жыве! — гукаюць суседзі. — Няхай жыве!

Слугі і дворныя таксама выбягаюць на ганак. — Няхай жыве! „Немцы пабіты“! Няхай жыве пан пасол! І пані пасьліха!

— А дзе-ж ксёндз? — пытаецца хтосьці.

— Зараз прыедзе,—адказвае дворны, — яшчэ падлічаюць некаторыя галасы...

— Падаваць палудзень, — гукáе пан пасол.

— Няхай жыве! — паўтараюць некаторыя з гасьцей.

Усе вяртаюцца ў залю. Госьці ўжо спакойна віншуюць гаспадара й гаспадыню. Толькі пані Яжынская ня мае сілы ўтаіць свае радасьці і, ня гледзячы на прысутных, кідаецца мужу на шыю. Але госьці ня бачаць у гэтым нічога дрэннага,— наадварот, усе вельмі рады.

— Дзякуй Богу, мы яшчэ жывём, — кажа сусед з Мізэрова.

Тымчасам да ганку пад'яжджае брычка і ў залю ўваходзіць ксёндз, а сьледам за ім стары Мацей з Пагнэмбіна.

— Дзень добры! дзень добры! — выгукваюць сабраныя. — На чыім баку большасьць?

Ксёндз з мінюту маўчыць і затым моцна заяўляе:

— Выбраны Шульбэрг!

— Як? Што сталася? Якім чынам? Дворны казаў, што выбраны пан Яжынскі. Што сталася?

У гэтую мінюту пан Яжынскі выводзіць з залі сваю жонку, якая ледзь стрымліваецца ад сьлёз.

— О, няшчасьце! няшчасьце! — паўтараюць прысутныя, хапаючыся за галовы.

У гэтую мінюту з боку вёскі далятаюць нечыя вясёлыя выгукваньні. Гэта пагнэмбінскія немцы гэтак радасна трыумфуюць сваю перамогу.

Пан і пані Яжынскія ізноў вяртаюцца ў залю. Чутно, як каля дзьвярэй Яжынскі кажа жонцы: „Il faut faire bonne mine.“ Маладая гаспадыня ўжо ня плача. Вочы ў яе сухія і толькі твар моцна гарыць.

— Скажэце-ж цяпер, як гэта здарылася? — спакойна пытаецца гаспадар.

— Як-жа ж магло ня здарыцца, — заяўляе стары Мацей, — калі й тутэйшыя пагнэмбінскія мужыкі падалі галасы за Шульбэрга.

— Хто такі?

— Як гэта так тутэйшыя?

— А як-жа. Я сам бачыў, дый і ўсе бачылі, як Бартэк Словік падаў голас за Шульбэрга...

— Бартэк Словік?—пытаецца пані Яжынская.

— Але. Цяпер яго вяскоўцы лаюць. Мужык качаецца па зямлі, плача; Магда яго лае да апошняга. Але я сам бачыў, як ён галасаваў...

— Гэткага мужыка трэба выгнаць вон з вёскі, — заўважае ўласьнік Мізэрова.

— Гэта-ж і іншыя, што былі на вайне, гэтак сама галасавалі, як і ён, — кажа Мацей. Людзі кажуць, што ім гэтак загадалі...

— Надужыцьці, надужыцьці! выбары няважныя, гвалт! машэньніцтва!—чуюцца розныя галасы.

У гэты дзень невясёлы быў палудзень ў пагнэмбінскім двары.

— Увечары Яжынскія выехалі, але ўжо ня ў Бэрлін, а толькі ў Дрэздэн.

Тымчасам Бартэк, абсыпаны лаянкай і праклянцьцямі, сядзеў у сваёй хаце, чужы навет для ўласнае жонкі, таму што і яна ў гэты дзень ухілялася ад яго і ўпарта маўчала.

* * *

Увосень Бог даў ураджай і пан Юст, якому засталася Бартэкава зямля, цешыўся, што зрабіў саўсім не благую справу.

Праз нейкі час з Пагнэмбіна ў места ішло трое людзей: мужык, баба і дзіця. Мужык пахудзеў, згорбіўся і болей быў падобны да высахшага

дзеда, як да здаровага чалавека. Яны ішлі ў места, таму што не маглі знайсьці працы ў Пагнэмбіне. Кропіў дождж; баба плакала з гора й тугі па згубленай хаце і ўсёй вёсцы. Мужык маўчаў. На дарозе ня было відаць ні ваза, ні чалавека і толькі ў баку чарнеў змочаны дажджом крыж. Дождж ліў усё мацней, хмары зацягнулі неба і паступова цямнела.

Бартэк, Магда і Франэк ішлі ў мэста, таму што пераможніку каля Гравэлёту і Сэдану трэ' было яшчэ ўзімку сядзець у вастрозе па справе Бэгэ.

Паны Яжынскія заўсёды пражывалі ў Дрэздэне.

---